Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 1 (4852) 6 студзеня 2016 г.





## Што Табе прынясём, Хрысце?

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, увесь святарскі, дыяканскі і манаскі чын, набожныя міране — верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы! Сардэчна віншую ўсіх вас з вялікім і светлым святам Раджджаства Хрыстовага!

Следам за старажытнымі мудрацамі сёння ўсе мы, прыведзеныя Віфлеемскай зоркай, радасна накіраваліся да ясляў Бажэственнага Дзіцяці — Госпада нашага Ісуса Хрыста: Бог уцяллесніўся, каб абнавіць свет, каб людзі «жыццё мелі, і ўдосталь мелі». Святы апостал і евангеліст Лука паўтарае словы Ангела пра тое, што ў горадзе Давідавым «нарадзіўся вам сёння... Спасіцель, Які ёсць Хрыстос Гасподзь». Наколькі ж вялікія невымоўная міласэрнасць і бязмежная любоў Госпада, Які прынізіўся дзеля нашага спасення! Тварэц неба і зямлі сышоў на зямлю, каб адкрыць Сябе людзям і ўказаць нам шлях у Нябеснае Царства.

Раджджэственскія малітвы нашай Святой Царквы з'яўляюцца працягам таго славаслоўя, якое ў дзівосную ноч Раджджаства ангельскім спевам напоўніла ўвесь свет, горні і дольні: «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля». У Раджджастве Хрыстовым Усявышні Гасподзь паказаў чалавецтву вялікую тайну Уцялеснення Сына Божага, бо «сёння Бог на зямлю прыйшоў, і чалавек на Нябёсы ўзышоў».

Сёння Гасподзь Уседзяржыцель кладзецца ў яслі нашых сэрцаў, у якіх адбываецца наша ўсынаўленне Самому Тварцу. Успамінаючы, як мудрацы «ўзрадаваліся радасцю вельмі вялікаю. І, увайшоўшы ў дом, яны ўбачылі Дзіця з Марыяю, Маці Яго, і, паўшы, пакланіліся Яму; і, адкрыўшы скарбніцы свае, прынеслі Яму дары: золата, ладан і смірну», мы павінны спытаць у сябе: а што ж мы прыносім да ясляў, якія прынялі Неўмяшчальнага Бога?

Чытайце на стар. 2 ▶

## Знакі культуры



Фота Анатоля Клешчука.

Калі канчаецца час месяца, дзень бярэ ў спадчыну тыя кропелькі святла, што былі раскінутыя па небе маленькімі драбніцамі. Але менавіта яны ў цемры дазвалялі намацаць дарогу, каб дайсці дадому і не заблукаць. Менавіта яны сваёй пяшчотнай пульсацыяй праз акно прарываюцца жыццём туды, дзе пануе сон, нездарма ж збавенне ад сну прыходзіць з больш упэўненым святлом. Маленькая збаўца-зорка яшчэ і асвятліла нараджэнне зямнога чалавека, які быў адзначаны шляхам Збаўцы. Так святло памножылася ў людзях, яны з ім ідуць па жыцці. І могуць, самі таго не ўсведамляючы, насіць у сабе веды пра тую чароўную зорку, што прыходзіць на Каляды, але дае святло на ўвесь год. Сімвал нябесны, але стаў сімвалам жыцця людзей, якія працягваюць ствараць, адораныя чароўным святлом.

З пакалення ў пакаленне ў беларускім народзе перадаюцца веды пра чароўную зорку як пра сімвал адной прыроды нябеснага і зямнога святла. У нас іх шмат — тых культурных сімвалаў, якія асобных людзей яднаюць у народ, дазваляюць лепш зразумець сябе, напамінаюць пра тое, што неабходна, каб самазахавацца. За тысячагоддзі, у якія выспявала і ўзрастала беларуская культура, яна назапасіла шмат сімвалаў і знакаў — у кожным каштоўная інфармацыя, таямніца. Пэўная сутнасць. Ёсць сімвалы агульначалавечыя і этнічныя, народныя і нацыянальныя. Каб дакрануцца і паспрабаваць разгадаць іх, патрэбны час — ён нам дадзены Годам культуры, які мы прапануем пражыць разам. Але гэтыя сімвалы і знакі можна спасцігаць усё жыццё, і будзе мала. Таму што мы працягваем ствараць, беларуская культура папаўняецца новымі стваральнікамі, новымі сэнсамі і адзнакамі. Мы разам іх будзем прыкмячаць і асэнсоўваць, звяртаць увагу на знакавых асоб, якія могуць выпраменьваць святло і здольныя быць збаўцамі для асобна ўзятай культуры. Будзем разам выбіраць, з чым рухацца далей.

Ёсць з чаго: вакол нас сёння знакі культуры сусветнай і айчыннай беларускай. Адзнакі лепшага, што было і ёсць. Знакавыя асобы — блізкія, дарагія. Знакі адметныя. Вечныя. Жывыя. Як самакультура…

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прысудзіў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльныя прэміі дзеячам культуры і мастацтва 2015 года. Сярод лаўрэатаў — аўтарскі калектыў у складзе пазаштатнага супрацоўнікагалоўнайрэдакцыіміжнароднага вяшчання Беларускага радыё Алены Харазвіч і прафесара кафедры крымінальна-выканаўчага права Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Анатоля Шаркова. Іх намаганнямі створана кніга-рэквіем «Жыць і помніць», у якой абагульнены вынікі работы па вызначэнні і вывучэнні месцаў пахавання беларусаў — абаронцаў Айчыны ў розных кутках Еўропы. Узнагароды ўдастоены таксама калектыў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, які паспяхова рэалізаваў буйнамаштабныя выставачныя праекты, накіраваныя на ўмацаванне духоўных каштоўнасцей у сучасным грамадстве. У ліку лаўрэатаў прэміі і настаяцель рэлігійнай абшчыны «Парафія Святой Тройцы ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна мясцовага рэлігійнага аб'яднання "Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага касцёла ў Беларусі"» Часлаў Курэчка, чый важкі ўклад у захаванне міжканфесійнага міру і нацыянальнай згоды, а таксама актыўны ўдзел у духоўна-асветнай дзейнасці краіны і прапагандзе здаровага ладу жыцця заслужылі шырокае прызнанне ў грамадстве.

✔ Кіраўнік дзяржавы падпісаў указ «Аб аб'яўленні 2016 года Годам культуры». Указ прыняты ў мэтах аб'яднання інтэлектуальных і духоўных сіл грамадства для вырашэння задач сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, захавання гісторыка-культурнай спадчыны, развіцця народных традыцый, выхавання ў грамадзян любові да Айчыны і падтрымкі творчых ініцыятыў.

✔ Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь прымае заяўкі для ўдзелу ў Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі-2016», які запланаваны на 21 — 22 студзеня і праводзіцца для вызначэння лепшых праектаў, што сталі падзеяй у айчынным кнігавыданні, павышэння мастацкай і паліграфічнай культуры беларускай кнігі, далейшага развіцця кніжнай справы, папулярызацыі лепшых дасягненняў выдавецтваў краіны за мінулы год. Да 15 студзеня можна прадставіць ва ўпраўленне выдавецкай дзейнасці і гандлю Міністэрства інфармацыі лепшыя выданні, выпушчаныя летась, з прыкладаннем заяўкі выдавецтва і даведкі пра кнігу, што вылучаецца на конкурс.

✔ Памятны знак Янку Купалу ўрачыста адкрылі ў ізраільскім Ашдодзе. Устаноўлены ён на гарадской плошчы Ашдода, названай у гонар Песняра ў 2012 годзе — да 130-годдзя з дня яго нараджэння. Гэта сумесная ініцыятыва Пасольства Беларусі ў Ізраілі і мясцовага аддзялення Усеізраільскага аб'яднання выхадцаў з Беларусі, рэалізацыя якой стала магчымай дзякуючы падтрымцы муніцыпалітэта горада.

✔ Фотавыстаўка Ірэны Гудзіеўскай «Пушча. Лён. Прыгажуні», арганізаваная Пасольствам Рэспублікі Беларусь у Венгрыі, з поспехам праходзіць у Будапешце. Мэта экспазіцыі — бліжэй азнаёміць венгерскіх прыхільнікаў мастацтва з нашай культурай, традыцыямі. У прадстаўленых фотаработах адлюстроўваецца цесная ўзаемасувязь непаўторнасці беларускай прыроды і жаночай прыгажосці.

✔Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі ў ноч з 13 на 14 студзеня сёмы раз запар правядзе вялікі навагодні баль. Гасцей чакаюць цудоўная музыка і самыя розныя танцы — ад вальса да паланэза, забаўныя розыгрышы. Але самае галоўнае — 13 студзеня з'явіцца магчымасць убачыць артыстаў і музыкантаў, якія зробяць гэты вечар па-сапраўднаму чароўным.

✔ У студзені цуды для дзяцей толькі пачынаюцца! У музеі-сядзібе М. К. Агінскага ў Залессі 9 студзеня пры ўдзеле Музычнага дома «Класіка», героя праекта «Эпоха князя Міхала Клеафаса» і пры падтрымцы Міжнароднага фонду «Ідэя» — стваральнікаў і выканаўцаў фестывалю «Класіка каля Ратушы» ў Мінску — пройдзе Калядны баль!

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Што Табе прынясём, Хрысце?

Яму не патрэбны ні наша слава, ні нашы матэрыяльныя дасягненні; марныя думкі і штодзённыя турботы, імкненні людзей узвысіцца адзін над адным з'яўляюцца пылам у вачах Бога. Ва ўсе часы людзі, якія заганарыліся і аддаліліся ад Бога, у выніку рабіліся нікчэмнымі і няшчаснымі.

Няхай жа будзе нашым дарам Бажэственнаму Дзіцяці моцная і шчырая вера, прыклад якой дае нам Прасвятая Багародзіца, бо Яна сказала Архангелу Гаўрыілу, які абвясціў Ёй добрую вестку: «вось, Я — раба Гасподняя; няхай будзе Мне па слову тваіму». Прападобны Яфрэм Сірын піша, што Дзева Марыя — «Дачка Святла, таму што праз Яе азарыліся Святлом і свет, і жыхары яго». Святая Царква заклікае нас з верай несці свету гэтае Святло, Якое ёсць Гасподзь наш Іісус Хрыстос.

Кожны з нас, для каго Гасподзь — Айцец Нябесны, абавязкова павінен прынесці да Віфлеемскіх ясляў яшчэ адзін дар — любоў: любоў адзін да аднаго, да ўсіх навакольных людзей — гарачую і дзейсную, бо «па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі любоў будзеце мець паміж сабою». Побач з намі заўсёды ёсць тыя, хто пакутуе, падае духам, адчайваецца, старыя і нядужыя, хворыя, гаротныя і самотныя. Неабходна разумець, што там, дзе няма любові, узаемнай падтрымкі і адказнасці, гатоўнасці ўсё жыццё прынесці ў дар тым, каго любіш, там няма ні шчасця, ні радасці, ні паўнаты быцця. Гасподзь і Спасіцель чакае ад верных дзяцей Святой Царквы добрых пладоў — служэння любові і міласэрнасці дзеля нашых бліжніх.

Год мінулы, міласцю Божай, прынёс нам нямала духоўнай радасці. Ён быў адзначаны шматлікімі добрымі здзяйсненнямі ў жыцці нашай Царквы, якія таксама сталі своеасаблівымі падарункамі Богадзіцяці Хрысту.

У дні святкавання Раждзства Госпада і Спасіцеля нашага Царква Хрыстова заклікае да радаснай і ўдзячнай малітвы, і мы ўзносім хвалу і падзяку ўцялесненаму Сыну Божаму, Які прынёс на зямлю вечнае спасенне, любоў і мір, за ўсе Яго дабрадзействы і міласці, дараваныя ў мінулым годзе, за Яго ўсемагутную дапамогу, што ўмацоўвала нас у выпрабаваннях, якія мы пераадольвалі з верай і спадзяваннем на Бога.

Любоў і мірнае адзінства прынёс на зямлю Гасподзь наш Іісус Хрыстос: «няхай усе будуць адно: як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так няхай і яны ў Нас будуць адно». Найвышэйшая мэта, указаная прыйшоўшым на зямлю Спасіцелем, — мірнае адзінства людзей у адзінстве з Богам, у адной праваслаўнай веры, у адзінай, святой, саборнай і апостальскай Царкве. Як верныя дзеці Хрыстовы, усе мы павінны клапаціцца пра захаванне адзінства Святой Праваслаўнай Царквы.

Святейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл, выступаючы на XIX Сусветным Рускім народным саборы з дакладам «Спадчына князя Уладзіміра і лёс гістарычнай Русі», адзначыў, што «ў год 1000-годдзя спачыну святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра мы звяртаемся да спадчыны, якую ён нам пакінуў… Спадчына заўсёды змяшчае ў сабе запавет, заахвочвае нашчадкаў да дзеяння. Відавочна, што асноўны і самы каштоўны для на сэнс спадчыны роўнаапостальнага князя — гэта сэнс рэлігійны: гэта прынятая народам вера Хрыстова». Выбар Хрысціцеля Русі «дазволіў народу раскрыць свае здольнасці і таленты ў лоне хрысціянства, выявіць сябе ў служэнні ўсяленскай ісціне Хрыстовай і ў межах гэтага служэння стварыць уласную цывілізацыю».

Першасвяціцель заклікаў усіх «адчуць і асэнсаваць адзіны гістарычны шлях, які пачаўся з Хрышчэння Русі: ім мы крочылі скрозь усе выпрабаванні да перамог, менавіта гэты шлях адкрывае нам перспектыву будучыні. Гэтая перспектыва — захаванне і будаўніцтва нашай самабытнай цывілізацыі, якая абапіраецца на ўніверсальны хрысціянскі падмурак і ўлічвае нацыянальныя пачаткі народаў. Такі для нас найважнейшы ўрок спадчыны святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Мы павінны быць вартымі гэтай спадчыны, абавязаны захаваць яе і перадаць наступным пакаленням», — падкрэсліў Святейшы Патрыярх Кірыл.

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе Прасвяшчэнныя архіпастыры, айцы, браты і сёстры! Зноў і зноў віншую вас са светлым і радасным святам Раждзства Хрыстовага і малітоўна жадаю невычэрпнай благадатнай дапамогі Божай у вашай працы дзеля славы Беларускай Праваслаўнай Царквы, дзеля славы Бацькаўшчыны нашай — благаславеннай Белай Русі, на радасць усім нашым бліжнім. Амінь.

**ПАВЕЛ,**
**мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**

# Культурны клімат

## У глыбінцы — як у сталіцы: людзі павінны мець выбар, як праводзіць вольны час




*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас святкавання Дня пісьменства ў Глыбокім у 2012 годзе.*

Магчымасці рэалізацыі гэтага тэзіса хвалююць людзей, якія займаюцца культурай, ствараюць яе, адчуваюць далучанасць да культурных практык. Як стварыць спрыяльны клімат для развіцця культуры? Як зрабіць беларускую культурную прадукцыю больш запатрабаванай? Як паспрыяць супрацоўніцтву паміж дзяржаўнымі інстытутамі, грамадзянскай супольнасцю і камерцыйным сектарам у культуры? Адказы на гэтыя пытанні мы будзем шукаць увесь год, каб зрабіць беларускую культуру больш прывабнай. Яна самабытная і прыцягальная — гэта пацвярджаецца ўвагай тых, хто прыглядаецца да нас збоку і праз культуру імкнецца лепш зразумець краіну пад назвай Беларусь. Гэты погляд збоку можа быць важны, каб найперш мы самі зразумелі каштоўнасць таго, што маем, і былі зацікаўленыя ў захаванні і развіцці. Дзеля гэтага ў Беларусі пачынаецца праграма ЕС і Усходняга партнёрства «Культура і крэатыўнасць», пачатак якой абвясціці напрыканцы мінулага года.

У еўрапейскіх краінах культурныя і крэатыўныя індустрыі — трэці па велічыні працадаўца, які забяспечвае працай больш моладзі, чым кожны іншы сектар. Але і для Беларусі ён істотны. Паводле інфармацыі аб стане спраў у сферы культуры Рэспублікі Беларусь, колькасць супрацоўнікаў дзяржаўных арганізацый, падначаленых Міністэрству культуры, складае каля 60 тысяч чалавек. Але колькасць рэальна занятых і зацікаўленых у культуры ў нашай краіне значна большая: ёсць недзяржаўныя арганізацыі, выдавецтвы, асобы, занятыя творчай працай, аматарскія калектывы, людзі, гатовыя ўкладваць у культуру свае ідэі, сілы, сродкі і г.д. Наогул, калі паняцце «культура» разумець максімальна шырока, то гэта сфера, якая тычыцца кожнага чалавека. Культура і мастацтва — гэта магчымасць самавыяўлення і асобаснага развіцця, яны дапамагаюць вызначыць каштоўнасці, забяспечваюць пераемнасць перадачы ведаў, распаўсюджваюць ідэю культурнай разнастайнасці і талерантнасці.

Падчас прэзентацыі праграмы «Культура і крэатыўнасць» прадстаўнікі розных сфер беларускай культуры аб'ядналіся ў некалькі груп і абмеркавалі, якіх пазітыўных змен яны чакаюць ад айчыннай культуры ў найбліжэйшыя пяць гадоў. Была абгрунтавана неабходнасць пашырэння гуманітарнага блока ў сістэме адукацыі, пошуку сучасных і прывабных ідэй у прамоцыі культурнай прадукцыі. На думку ўдзельнікаў першай сустрэчы, у рамках абвешчанай праграмы вельмі важнай з'яўляецца арганізацыя спрыяльных умоў для мецэнацкай і спонсарскай дзейнасці, стварэнне лобі-групы, якая прадстаўляла б зацікаўленні розных удзельнікаў культурнага жыцця ў дыялогу з дзяржаўнымі ўстановамі. Актуальнай задачай застаецца павелічэнне ёмістасці і шчыльнасці культурнага жыцця ў рэгіёнах — каб жыхары мястэчак прынамсі ў выхадныя мелі на выбар некалькі цікавых культурных мерапрыемстваў.

У здзяйсненні беларускіх мараў павінны дапамагчы абмен вопытам з замежнымі калегамі, лекцыі і кансультацыі экспертаў. «Культура адыгрывае вялікую ролю ў рэформах і пазітыўных зменах, спрыяе ўстойліваму гуманітарнаму і сацыяльна-эканамічнаму развіццю», — падкрэсліў кіраўнік праграмы Цім Вільямс. Асноўнымі кампанентамі праграмы будуць практычныя даследаванні, трэнінгі, інфармацыйныя кампаніі і міжнароднае супрацоўніцтва.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Сустрэнемся, пагаворым… напішам!

## Адзін з прыярытэтаў пісьменніцкай арганізацыі — праца з моладдзю

**На гэта неаднаразова звярталася ўвага падчас пашыранага пасяджэння праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Доме прэсы, прысвечанага 10-годдзю грамадскага аб'яднання.**



*Прамаўляе Ігар Бузоўскі.*

«Творчыя набыткі нашых класікаў і сучасных літаратараў запатрабаваны ў шматлікіх чытачоў Беларусі і за яе межамі», — адзначана ў прывітальным адрасе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Саюзу пісьменнікаў Беларусі, які зачытаў намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, выказаўшы ўпэўненасць у тым, што творчыя, пісьменніцкія колы — гэта патэнцыял краіны, скіраваны на стварэнне і развіццё культурнай гісторыі. Акрамя таго, каласальнае значэнне мае актыўны ўдзел літаратараў у грамадска-палітычным жыцці.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас пасяджэння.*

Перспектывы Саюза пісьменнікаў Беларусі акрэсліў яго старшыня Мікалай Чаргінец. На думку Мікалая Іванавіча, за час існавання СПБ яго члены правялі маштабную арганізацыйную працу, зрабілі вялікі крок наперад на шляху развіцця айчыннай літаратуры: палітру пісьменніцкага слова дапоўніла стварэнне ў СПБ секцый краязнаўства, сатыры і гумару, песеннага жанру, з многімі краінамі заключаны пагадненні аб творчым супрацоўніцтве, створаны Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, шматкроць павялічылася прысутнасць айчынных пісьменнікаў у інтэрнэце.

Сёння ў складзе СПБ больш як 600 літаратараў. Сярод іх — лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных прэмій, у тым ліку Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, уладальнікі ордэнаў і медалёў, дактары і кандыдаты навук.

Падчас калектыўных творчых вандровак члены СПБ пабывалі ва ўсіх абласцях краіны, наведалі шмат прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, навучальных устаноў, а па выніках гэтых паездак стварылі новыя кнігі, публіцыстычныя артыкулы. Напрыклад, пасля такой паездкі на Магілёўшчыну празаік Мікалай Падабед напісаў аповесць «Іду на сустрэчу з навальніцай», у цэнтры якой — вобраз кіраўніка буйной сельскагаспадарчай арганізацыі.

У Мінскім гарадскім і рэгіянальных аддзяленнях СПБ рэгулярна ладзяцца літаратурныя святы, праводзяцца разнастайныя творчыя конкурсы, у якіх удзельнічаюць прадстаўнікі розных пакаленняў, у тым ліку творчая моладзь, студэнты. «Навучыць пісаць немагчыма. Але творчая арганізацыя павінна дапамагаць маладому таленту, развіваць яго, спрыяць прапагандзе творчасці», — зазначыў М. Чаргінец. Разам з тым Мікалай Іванавіч выказаў занепакоенасць кампаніяй змяншэння ў краіне колькасці бібліятэк. Такое скарачэннененабываемасавыхарактар і далёка не заўсёды абгрунтавана.

Аднак літаратура — вельмі важны фактар у працэсе будаўніцтва суверэннай, незалежнай Беларусі. На гэта ўвагу прысутных звярнула міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Закранаючы пытанне нацыянальнага кнігавыдання, Лілія Станіславаўна падкрэсліла: згодна з даручэннем кіраўніка дзяржавы ў межах дзяржзаказу штогод выходзіць па 10-12 кніг сучасных айчынных пісьменнікаў, выданне якіх фінансуецца толькі з дзяржаўнага бюджэту. «Чытанне — гэта не толькі развіццё асобы, гэта яшчэ і канкурэнтаздольнасць грамадства і дзяржавы», — упэўнена міністр інфармацыі.

На думку Ліліі Ананіч, у краіне трэба арганізаваць паўнавартасны, маштабны конкурс маладых аўтараў. А ў межах сёлетняй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу мяркуецца правесці і моладзевы літаратурны семінар.

— Вельмі важна своечасова запаліць творчы агонь у сэрцы маладога таленту, — лічыць літаратуразнаўца, член Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ, выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аліна Сабуць. — Сёння Гродзенскае абласное аддзяленне падтрымлівае шмат маладых паэтаў, сярод якіх — Вікторыя Смолка, Вольга Агапонава, Кірыл Котаў, Аліна Паўлоўская, Наталля Цвірко.

Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч уручыў ганаровы знак «Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі: 2005 — 2015. За ўклад у станаўленне і развіццё аддзялення» ўраджэнцу Гомельшчыны, паэту і перакладчыку Міколу Мятліцкаму.

Літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка звярнуў увагу, што і пра класікаў забывацца не трэба. Напрыклад, за апошнія гады выдадзены поўныя зборы твораў Івана Шамякіна і Максіма Танка. Складаецца і поўны збор твораў Янкі Брыля. Удзельнічаюць айчынныя літаратуразнаўцы і ў міжнародных праектах.



*У кулуарах. На пярэднім плане — пісьменнікі Уладзімір Ліпскі і Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.*

Такія сустрэчы — перш за ўсё магчымасць жывых пісьменніцкіх стасункаў, бо літаратары, якія жывуць у розных рэгіёнах, бачацца не так і часта. Але нацыянальную літаратуру ствараюць разам.

**Яна ЯВІЧ**

## Дайджэст

• У Пензе з'явіўся помнік, прысвечаны аднаму з найбольш вядомых вершаў Міхаіла Лермантава «Ветразь». Літаратурны арт-аб'ект размешчаны ля ўваходу ў Пензенскую абласную бібліятэку. Узведзены мемарыял на сродкі мецэнатаў. Што да помніка, ён выкананы ў выглядзе кнігі са старонкамі з фібрабетону. Цікава, што сам Міхаіл Лермантаў верш «Ветразь» не лічыў выбітным і нават не ўключыў яго ў склад збору сваіх сачыненняў.

• На ізраільскай банкноце ў 200 шэкеляў цяпер можна пабачыць партрэт паэта Натана Альтэрмана. Раней на ёй месціўся партрэт былога прэзідэнта Ізраіля. Натан Альтэрман — ураджэнец Варшавы, шэсць гадоў ён пражыў у Кіеве, а ў 1925 годзе іміграваў у Тэль-Авіў. Усё жыццё прысвяціў іўрыту, у прыватнасці, перакладаў на гэтую мову шэдэўры сусветнай літаратуры. Творы Альтэрмана ўключаны ў школьную праграму Ізраіля ды іншых краін. Новая банкнота з партрэтам паэта мае нестандартную даўжыню, што дазволіць людзям з абмежаванымі магчымасцямі зроку адрозніваць яе ад іншых купюр.

• Тэхнічная бібліятэка з'явілася ў Маскве на станцыі метро «Выставачная». Тут сабраная тэхнічная літаратура і дакументы на тэму будаўніцтва і дзейнасці метрапалітэна. Частку фонду новай бібліятэкі складае калекцыя начальніка маскоўскага метро Дзмітрыя Пегава. Акром таго, падземная бібліятэка «раздае» бясплатны *Wi-Fi*, таксама тут можна падсілкавацца ды выпіць кавы.

• Данііл Гранін адзначыў 97-годдзе. Урачыстасці прайшлі 1 студзеня ў Санкт-Пецярбургу. Аўтара раманаў «Шукальнікі», «Іду на навальніцу», «Пасля вяселля» віншаваў у тым ліку губернатар Георгій Палтаўчанка, які назваў Данііла Аляксандравіча «чалавекам гераічнага лёсу, пісьменнікам і ваяром».

• Спаўняецца 60 гадоў кнізе вядомага натураліста Джэральда Дарэла «Мая сям'я і іншыя жывёлы». Аўтабіяграфічная аповесць пра жыццё сям'і Дарэла на востраве Корфу выйшла ў свет у 1956 годзе. Па сёння брытанцы лічаць гэтую кнігу найлепшым творам, напісаным на натуралістычную і разам з тым сямейную тэму. Кніга ў свой час пабіла ўсе рэкорды продажаў у Брытаніі дый у наш час выдаецца шматмільённымі тыражамі. У сувязі з юбілеем твора *ITV* будзе трансляваць драматычны серыял пад назвай «Дарэлы», дзе аднаўлёная атмасфера дзяцінства юнага натураліста Джэральда. Менавіта ў той час ён палюбіў прыроду, што перадвызначыла справу яго жыцця.

• Літаратурным горадам 2016 года абвешчаны расійскі Ульянаўск. Спіс крэатыўных гарадоў ЮНЕСКА дзейнічае з 2004 года, і новыя ўдзельнікі сеткі абіраюцца штогод у снежні ў некалькіх кірунках, сярод якіх найбольш папулярныя музыка, літаратура і архітэктура. У журы ўваходзяць не толькі вядомыя людзі і актывісты, члены органаў ЮНЕСКА, але і кожны ахвотны. На пачатак 2015 года ў сетцы крэатыўных гарадоў налічвалася 69 найменняў. Ульянаўск рыхтаваў заяўку яшчэ ў пазамінулым годзе. Вялікую ролю ў яе прыняцці сыграла тое, што тут праводзілася шмат мерапрыемстваў у межах Года літаратуры ў Расіі: Ульянаўск — радзіма шматлікіх пісьменнікаў, сярод якіх, прыкладам, Мікалай Карамзін і Іван Ганчароў.

• Баварскія гісторыкі заявілі пра намер аддаць сродкі ад продажу кнігі Адольфа Гітлера «*Mein Kampf*» на забеспячэнне прытулкаў для бежанцаў. Кніга будзе перавыдадзеная сёлета. Навукоўцы сцвярджаюць, што такім чынам неанацысты, купляючы твор свайго куміра, будуць супярэчыць яго прынцыпам. А каментары да перавыдання яскрава прадэманструюць, які канец чакае «прыхільнікаў ідэй галоўнага злодзея XX стагоддзя». Раней стала вядома, што настаўнікі Германіі просяць уключыць «*Mein Kampf*» у абавязковую школьную праграму.

Казімір КАМЕЙША



# З новай кайстры

***

*Мінула ўсё. Спісалася ў былое.*
*Пара спускацца ўрэшце на зямлю.*
*Жыццё — не мёд,*
*І я не слыў пчалою,*
*Хоць трутняў не цярпеў і не цярплю.*

*Хай будзе шлях віхлястым,*
*ды не коўзкім!*
*Каму я гэту запаведзь бярог?*
*Дзе той парог, што назавуць*
*бацькоўскім?*
*Згубіўся ён між тлуму і трывог.*

*Адплюшчыш неспадзеў аднойчы вочы,*
*І ўбачыш: там не тое ці не так.*
*Накрыты стол,*
*Прысмакаў — колькі хочаш,*
*Ды ўсё такое горкае на смак!*

*Як дзіўна, што найлепшым*
*пачастункам*
*Чыесьці слова горкае было.*
*Дзе песні,*
*Смех,*
*Дзе ўрэшце пацалункі?*
*Падводзіць толькі нейкія рахункі —*
*Не трэба так, напэўна, за сталом.*

*Жыццё — не мёд,*
*Але частуюць мёдам,*
*І хваляць, як паэта, пчаляра.*
*Ну, а ў паэта іншая нагода:*
*У лес яму, па венікі пара!..*

***

*Такая ціш у родных хатах!..*
*Дым з коміна расце, як слуп.*
*Маўчаць Цар-Звон і Цар-Гармата,*
*Але шуміць яшчэ Цар-Дуб.*

*І птушак мілых ён гадуе,*
*І ўсім вятрам дае начлег.*
*І ўсё глядзіць на сцежку тую,*
*Дзе ўчора новы век прабег.*

*Кара маршчыніцца, як дума,*
*З балючых нарастаў кара.*
*Загінуў храм — ішлі да дуба,*
*А дуб казаў:*
*— Будуйце храм!..*

*Сплыла за небасхіл нуда ўся.*
*І дуж ён. Дужых больш няма.*
*Як да яго ні прыглядайся —*
*Скрозь вечнасць бачыцца сама.*

*Над пушчаю, над родней хатай*
*Шуміць мой Цар, мая радня.*
*Яго стагоддзі ў сем абхватаў*
*Дарма стараюцца абняць.*

*Сасне схілёнай ці бярозцы*
*Ён зрэдку кронай падняе.*
*І нават нам той моцы Боскай*
*З лістотай разам надае.*

*Глядзі, як прыўздымае гожа*
*Галін магутнае ліццё!..*
*Усюды царская раскоша,*
*Хоць і не царскае жыццё…*

## Чаканне

*У тлуме дзён,*
*На зломе лета*
*Душа стамілася сама.*
*Перабіраў я усе прыкметы,*
*Разгадваў страшных сноў падман.*

*Была бязлітасная спёка,*
*Самлелі студня і рака.*
*Быў нейкі дзіўны знак звысоку,*
*Што трэба горшага чакаць.*

*Чакаць, ці выгляне, ці гляне*
*Той бляск таемны праз туман.*
*А я даўно пракляў чаканне.*
*Чаканне — той жа ўсё падман.*

*Ну, дзе ў ім тая насалода?*
*Што шчасціць — множыцца на сум.*
*Чакаеш лепшага заўсёды —*
*Наяве горшае нясуць.*

*Вясковец ці жыхар сталічны —*
*Усе чакаюць, балазе.*
*Хай нават не ў чарзе стаіш ты,*
*Але чакаеш, бы ў чарзе.*

*Сустрэча — тут, а там — расстанне,*
*Чакае кожны сам свайго.*
*Мы ўсе залежым ад чакання,*
*Мы ўсе заложнікі яго.*

*Яно ж не многіх ратавала,*
*Яно не мае забыцця.*
*Яму жыцця, бывае, мала,*
*Яно жыве й пасля жыцця.*

*Яно стамляе і нястомкіх,*
*Гняце руплівцу й гультая.*
*Яно жывучае настолькі,*
*Наколькі сам цярплівы я.*

*Дзе тут віна мая якая?*
*Я разбяруся сам з віной.*
*Душа не горшага чакае*
*І памыляецца ізноў…*

## Вяселле ў палатцы

*Грымела вяселле ў шыкоўным палацы,*
*Ды тут жа забылася,*
*Знікла даўно.*
*А гэта гуляла ў звычайнай палатцы,*
*У цёмным двары,*
*Сярод вёскі лясной.*

*Усё стракацела, плыло прад вачыма,*
*Настоена ўсё на п'янлівым было.*
*Спакуслівы месяц, бы ўсмешка Мусліма,*
*Шаўковае неба і зорны пылок…*

*Такога вяселля сваты і не снілі,*
*Нібыта круцілі якоесь кіно.*
*Са згодаю згоду шумліва жанілі*
*І тут жа разводзілі іх заадно.*

*Таптаалі траву і адтоптвалі пяты.*
*Ужо і не вырасце болей трава.*
*Раённы аркестрык,*
*глухі, хрыплаваты,*
*Да ранку шалёныя струны ірваў.*

*Замоўк, затаіўся выжлятнік у будцы,*
*Свой хвост закруціўшы самотным*
*вужом.*
*І нейкі раўнівец у п'янай пагудцы*
*На вішню замахваўся фінскім нажом.*

*Таўхалі пад бок ды ірвалі пад сэрцам,*
*Цягнулі мяне недзе ў п'яны вішняк.*
*А свет калыхаўся вадой у вядзерцы*
*І нават забыўся, што ёсць цішыня.*

*Хіліла адных, а кагосьці ўздымала,*
*А іншага гэтак крутне ды ўбрыкне.*
*Палатка адна,*
*А зямлю ўзбунтавала*
*І кружыць яе з кожнай чаркай мацней.*

*І сваццця спявала:*
*— Я п'яна-п'яненька,*
*Сягоння дадому зусім не пайду…*
*Не смейцеся, людзі, што я не паненка,*
*Ды я маладога любога звяду.*

*Гляджу, а ўжо ў свата капыляцца вусны.*
*О, ён небяспечны, мужчынскі капыл!..*
*Ды што вы на сваццю?!*
*Вунь нейкі распусны*
*З чужой, пакамечаны, выпаўз капы.*

*А нехта ў гародчыку бухнуўся проста,*
*Прыснуў як здарожаны сумны вазак.*
*А нехта ля рэчкі,*
*А нехта ля моста,*
*А нехта... пра гэта не буду казаць…*

*А ранак прасіў ужо недзе расолу,*
*А голас да дна, як і гляк, перасох.*
*І пырскаў абцас аж да неба расою,*
*А хтосьці яму памагаў і слязой.*

*У лесе сваім і ў сваім, значыць, часе,*
*Нідзе вясялосці няма перашкод.*
*І гэтак шырока душа разышлася.*
*Няўжо прадчуваючы хуткі развод?*

*А быў я салдатам і спаў у палатцы,*
*Ды гульбішчаў гэткіх брызент і не сніў.*
*Гуляйце ў палатцы!*
*Навошта палацы?!*
*Жаніце і тых, каго позна жаніць!..*

*А я пагуляў.*
*І, здаецца, нямала.*
*Няхай прыпамінам каго і ўгнявіў.*
*І гэтак скажу, як мне пушча казала:*
*— Ну што ж, пагуляў,*
*А цяпер пажыві!..*



Фота Кастуся Дробава.

Алег ГРУШЭЦКІ



## Зіма

*На тройцы белых скакуноў,*
*У беласнежнай калясніцы,*
*З паўночных казачных краёў*
*Зіма прывезла чараўніцтвы.*

*Заслала пухам лес, палі,*
*На кроны дрэў надзела шапкі,*
*Зазіхацелі на зямлі,*
*Нібы у срэбры, вёсак хаткі.*

*Пад белым покрывам ляжаць*
*Прасторы — у здзіўленні вочы,*
*Высока ў небе зіхацяць,*
*Як дыяменты, зоры ўночы.*

*З сабой зіма прынесла нам*
*Забавы, радасці, уцехі,*
*Паўсюль дзіцячы смех і гам —*
*Гульня ў зімовыя пацехі.*

*Мароз на шкле пакінуў след,*
*Нібы мастак правёў рукою,*
*Намаляваў зімы партрэт,*
*Каб мы дзівіліся з табою.*

## Вясна

*З вясной прыходзіць нам каханне,*
*І абуджаемся ад сну.*
*Каханым дорым мы прызнанні,*
*Адчуўшы раннюю вясну.*

*Хвалюемся, нясём букеты:*
*Пралеску, ландыш — пах вясны.*
*Каханым пішам мы санеты,*
*Падснежнік дорым — квет лясны…*

*Вясна як быццам прабуджае*
*Усё найлепшае у нас.*
*Пяшчотай, сонцам саграваe,*
*Спявае капяжом раманс.*

*Дыван зялёны засцілае*
*Прыгожы краявід палёў,*
*Галінкі дрэваў аздабляе,*
*Нібы мастак рукой правёў…*

## Лета

*Чакаем лета знbackoўку з нецярпеннем,*
*Яго дарункаў, сонца, цеплыні,*
*Чароўных і нязведаных імгненняў,*
*Якія прынясуць нам тыя дні.*

*Каб цёплым вечарам па парку*
*Пад зорамі ўдвах брысці.*
*І мілавацца аж да ранку,*
*Каб толькі з досвіткам прыйсці.*

*Каб ясны раніцай па полі*
*Прабегчы шпарка па расе,*
*І насалоджвацца раздоллем,*
*І цешыцца такой красе.*

*Глыбока удыхнуць паветра,*
*Пачуўшы, пахне як чабор,*
*І заспяваць па нотах ветру*
*Скрозь краявіды і прастор.*

*Ах, лета цёплыя дзянёчкі,*
*Вы прэч праганіце тугу.*
*Я буду памятаць вас, ночкі,*
*Надоўга ў сэрцы зберагу.*

## Восень

*Золатам і меднымі манетамі*
*Ўзбагаціла восень дрэў лістоту.*
*Ты, пара, апетая паэтамі,*
*Ахінула край сваёй пяшчотай.*

*Сыплеш, не шкадуючы, багацце,*
*Пакрываеш ім зямлю, дарогі.*
*Золатам, якое не патраціш,*
*Кідаеш ты лісце нам пад ногі.*

*Мы ідзём няспешна па алеі,*
*Золата раскідваем нядбайна,*
*А душа і сэрца ціха млеюць…*
*Прыгажосць якая! Незвычайна.*

*Часам вецер, лёгкі і павольны,*
*З дрэў страсае лісце, бы манеты.*
*Золата злятае на далоні,*
*І збіраем мы яго ў букеты.*

Настасся НАРЭЙКА

# Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў



## 1

Бабуля Зіма бавіла доўгі снежаньскі вечар за вязаннем. Тонкі празрысты кручок маляваў у паветры кружкі і спіралі, а бялюткі клубок качала па падлозе гарэзлівае кацяня. Час ад часу, калі нітка наструньвалася асабліва моцна, бабуля Зіма нецярпліва торгала за яе, прыгаворваючы: «Май сумленне, Сняжок. Не перашкаджай!» Кацяня паслухмяна выпускала з лап любімую забаўку, а потым, калі гаспадыня паглыблялася ў працу, падлічваючы ўслых петлі, зноў запускала вострыя кіпцюркі ў клубок.

Бабулі Зіме трэба было спяшацца. Снежань на зыходзе, а снегу ані парушынкі!

Кручок рухаўся ўсё шпарчэй і шпарчэй. Раз за разам рука цягнулася за празрыстымі нажніцамі, акуратна абразала нітку — і новы бялюткі анёл займаў сваё месца на круглым стале, сярод дзясяткаў такіх жа.

Усе анёлы мелі за спінамі мяккія, лёгкія крылы і, калі бабуля Зіма асабліва засяроджвалася на працы, асцярожна ўзмахвалі імі, запаўняючы паветра празрыстым звонам, і ўзляталі над сталом. «Гарэзы!» — без злосці думала гаспадыня, назіраючы адным вокам за малымі, і давязвала чарговаму анёлу белую карункавую сукенку.

Калі ў дзверы пастукалі, анёлы чародкай узняліся над сталом — нібыта дзясяткі званочкаў заспявалі калядную песеньку. Ад цікаўнасці і захаплення яны забылі і пра асцярожнасць, і пра тое, што толькі-толькі навучыліся лётаць. Бабуля Зіма строга паглядзела на сваіх маленькіх выхаванцаў і пагразіла пальцам, пасля чаго анёлы дружна апусціліся на стол, але іх крыльцы ўсё адно дрыжалі, гатовыя ў любы момант выправіцца ў палёт.

На парозе ў расхрыстаным, як заўсёды, кажуху стаяў Паўночны Вецер. Бабуля Зіма ўздыхнула, прыгладзіла белай рукой калматую галаву ўнука і ўпусціла яго ў хату.

— Зноў бадзяўся недзе? — спытала яна, хоць выдатна ведала, што так і было.

— Не бадзяўся, а па справах лётаў, — пакрыўдзіўся Паўночны Вецер.

— Ведаю я твае справы! Зноў, відаць, дзеўкам косы расплятаў…

Бледныя шчокі ўнука заружавеліся.

— Добра, што чырванееш. Значыць, сумленне яшчэ не страціў, — бабуля Зіма ўжо ўсміхалася, бо ніколі не магла доўга злавацца на ўнукаў, асабліва — на Паўночнага Ветра, самага малодшага.

— Я, дарэчы, не так проста прыляцеў, бабцю. Людзі снегу зачакаліся.

Анёлы, як пачулі гэтыя словы, суцэльным белым воблакам узняліся са стала, весела пазвоньваючы крыльцамі.

— Бач ты, як узрадаваліся! — бабуля Зіма з усмешкай пахітала галавой.

А Паўночны Вецер асцярожна пасадзіў на далонь самага цікаўнага анёла, уважліва разглядзеў яго:

— Прыгажосць!

Бабуля Зіма ледзьве не растала ад такога камплімента:

— Ты ўжо скажаш!

— І скажу!

— Дарэчы, — ёй карцела як мага хутчэй перавесці размову на іншую тэму, — ці заслугоўваюць людзі нашага снегу? Сам ведаеш, злыя душы ненавідзяць яго.

— Ведаю. Але… добрыя без снегу губляюць сваё свята.

Бабуля Зіма задумалася, а потым уздыхнула і пайшла да вялікага, ад падлогі да столі, акна, за якім бліскалі-пераліваліся зоркі. Яна расчыніла яго насцеж, упусціўшы ў пакой хвалю срэбнага месяцовага святла.

— Што ж, — гаспадыня павярнулася да стала, на якім трымцелі ўзрушаныя анёлы. — У добры шлях!

Паўночны Вецер падхапіў са стала бялюткі рой і са свістам вылецеў у акно. Праз імгненне зоркі і сняжынкі-анёлы пераблыталіся зусім — не адрозніць, не пазнаць!

## 2

Бабуля Зіма стомлена апусцілася ў крэсла. Ласкавы Сняжок імгненна ўскочыў ёй на калені і згарнуўся клубком — спаць. Ад доўгага вязання балелі вочы, ныла спіна і хацелася як мага хутчэй праваліцца ў салодкі сон.

Яна сабрала ў кошык для рукадзелля кручок, зблытаныя клубкі, нажніцы… І раптам убачыла на стале малога анёла без крылаў, якога пакінула, не давязаўшы, калі з'явіўся Паўночны Вецер.

Малы панура схіліў белую галоўку і ціха ўсхліпваў.

— Ах, мой ты даражэнькі! — бабуля Зіма асцярожна пасадзіла анёла на далонь. — Не плач. Зараз усё папраўім!

Яна ўладкавала соннага ката ў другім крэсле, дастала з кошыка кручок і ніткі. Анёл пакорліва павярнуўся да гаспадыні прыгнутай спінкай. Некалькімі рухамі яна давязала яму адно крыло, яшчэ некалькімі — другое.

— Вось так, — бабуля Зіма асцярожна павярнула малога да сябе. — Паспрабуй.

Анёл нясмела паварушыў крыламі, а потым павольна паплыў над сталом.

Гаспадыня ўздыхнула з палёгкай.

— Малайчына!

Яна працягнула далонь, і малы даверліва апусціўся на яе. Ля ўсё яшчэ расчыненага акна бабуля Зіма схілілася да анёла:

— Бачыш, як ляцяць твае браты і сястрычкі?

— Бачу… — прашаптаў ён.

— Тады ляці.

Бабуля Зіма яшчэ доўга сачыла за маленькім белым камячком, што плаўна лунаў у паветры. Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў…

## 3

Унізе спаў горад... Блакітны і белы. Якія салодкія сны начароўвала яму завіруха! Як цёпла было дамам і дрэвам пад снежнымі шапкамі! Гадзіннік на цэнтральнай плошчы ўсміхаўся ў вусы-стрэлкі, а ліхтары вакол яго гарэлі таямнічым блакітным агнём, нібыта за празрыстым, як хрусталь, шклом кожнага дрыжаў агеньчык жывой свечкі. Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, упершыню ў жыцці бачыў сапраўдны горад, блакітны і белы...

Пакружыўшы вакол гадзінніка (які прыемны, меладычны звон даносіўся з яго, калі мінутная стрэлка перасоўвалася яшчэ на адно дзяленне!), маленькі падарожнік паляцеў далей — колькі цікавага было навокал! Паўсюль: на дахах, на галінках дрэў, на лаўках у парку і проста на зямлі — ён бачыў сваіх братоў і сясцёр, з якімі зусім нядаўна з'явіўся на свет у чароўнай хатцы бабулі Зімы. Кожнаму з іх Паўночны Вецер прызначыў сваё месца, і толькі наш Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, меў магчымасць ляцець куды пажадае. Гэта было і страшна, і адказна, і цікава адначасова. «Шчаслівай дарогі, маленькі!» — звінелі адусюль тонкія галасы іншых анёлаў. І ляцець было нашмат лягчэй.

Крылы за спінай развіналіся самі сабою, і Анёл, які ледзь не застаўся без іх, лунаў над горадам. Ён не ведаў, што за гэтай ноччу прыйдзе новы, асаблівы дзень, якога ўсе чакаюць з нецярпеннем. Апошні дзень года.

Напэўна, наш маленькі падарожнік так і лётаў бы дзе жадае, калі б на адной з вуліц яго ўвагу не прывабіла халаднаватае блакітнае святло ў акне. «Там не спяць!» — узрадаваўся Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, бо яму, шчыра кажучы, ужо крыху надакучыла проста лунаць без справы. Ён асцярожна апусціўся на падаконнік, прыцярушаны белым завейным цукрам, і з цікаўнасцю зазірнуў у пакой.

Там стаяла ёлка. Такая, якую ён ужо бачыў у горадзе, і адначасова не такая. На яе галінках віселі сапраўдныя яблыкі, пернікі ў выглядзе пеўнікаў, бліскучыя рознакаляровыя зорачкі, нанізаныя на тонкую нітку. Зорачкі то запальваліся, то згасалі, і Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, зачараваны назіраў за імі, прыціснуўшы тварык да шкла там, дзе дзядуля Мароз, вясёлы суджэнец бабулі Зімы, не паспеў дамаляваць чароўнае пяро Жар-птушкі. «Які цуд!» — выдыхнуў маленькі падарожнік, і раптам ад яго цёплага дыхання аконнае шкло растала! Праз імгненне ён быў ужо ў пакоі, цёплым і ўтульным.

## 4

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, затаіў дыханне і ў цішыні пачуў тоненькі плач, нібыта ў малой птушачкі балела сэрцайка. «Хто тут?» — крылы малога падарожніка зазвінелі ад хвалявання, калі ён паляцеў на жаласлівы гук. Плакала дзяўчынка. Яна сядзела ў ложку, выціраючы горкія слёзы ражком ружовай коўдры. Доўгая светлая каса, заплеценая на ноч клапатлівай мамай, амаль расплялася, чырвоная стужка ўздрыгвала на плячы малой.

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, асцярожна апусціўся на коўдру ля рукі дзяўчынкі.

— Дзінь-дзінь! — яго голас зазвінеў, нібы званочак. — Не плач!

Блакітныя вочы дзіцяці здзіўлена ўгледаліся ў нечаканага госця.

— Хто ты? — яна асцярожна нахілілася.

— Анёл, які...

Дзяўчынка не дала яму дагаварыць:

— Ахоўнік?!

Расчараваць гэтую маленькую, прыгожую істоту ён не рашыўся:

— Так.

— Матуля гаворыць, што ў кожнага чалавека ёсць анёл-ахоўнік. Ён абараняе, вядзе і... — вочы дзяўчынкі зноў напоўніліся слязамі, — выконвае жаданні.

— У цябе ёсць жаданне? — здагадаўся Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў.

— Ёсць, але яно не можа спраўдзіцца.

— Хто табе сказаў?

— Дзядзечка доктар. Чула, як ён шэптам гаварыў маме, што я ніколі не буду хадзіць.

— Ты не можаш хадзіць? Хіба так бывае?

— Бывае, — дзяўчынка ўсхліпнула.

— Але ж у цябе ёсць ножкі?

— Канечне! — яна адкінула коўдру. — Толькі яны не рухаюцца.

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, адчуў пякучыя слёзы на сваіх шчоках. Ён сам мог бы так ніколі і не ўзляцець, калі б не бабуля Зіма.

— Ты дапаможаш мне?

Маленькі падарожнік пакутліва ўздыхнуў:

— Калі б я мог!

Лепш бы ён гэтага не гаварыў! Дзяўчынка зноў заплакала, ды так горка, што ў Анёла, які ледзь не застаўся без крылаў, гатова была разарвацца сэрца (у анёлаў ёсць сэрцы, паверце!).

Узмахнуўшы крылцамі, ён узляцеў на плячо малой і зашаптаў на вушка, запінаючыся і глытаючы словы:

— Я дапамагу табе! Абавязкова дапамагу! Ты будзеш хадзіць! І нават танцаваць...

— Заўтра, на навагоднім ранішніку?

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, не ведаў, што такое Новы год і ранішнік, але згодна заківаў, гладзячы белым крылцам шчаку дзяўчынкі.

Раптам за дзвярамі пачуліся насцярожаныя крокі.

— З кім ты размаўляеш, дачушка? — жанчына спынілася ў зацемненым кутку, каб дзяўчынка не бачыла яе заплаканых вачэй.

— Ні з кім, матулька. Я гаварыла малітву, як ты вучыла.

— Малайчынка, але ўжо пара спаць.

— Дабранач!

Мама ціха выйшла, прычыніўшы дзверы.

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, выглянуў з-за стоса кніг з казкамі на стале, за якімі хаваўся.

— Час спаць.

Дзяўчынка ўсміхнулася:

— Да заўтра.

## 5

У пакоі стала зусім ціха.

Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў, самотна пазіраў у акно, за якім зноў кружлялі сняжынкі. Ён ведаў, што нічым не зможа дапамагчы дзяўчынцы, і сэрца яго разрывалася. «Што рабіць? Што рабіць?» — звінела ў галаве, і раптам прыйшла выратавальная думка.

Маленькі падарожнік убачыў сваё адлюстраванне ў кішэнным люстэрку, што ляжала на стале. Крылы! У яго ж ёсць крылы! Калі аддаць іх дзяўчынцы, яна зможа не тое што хадзіць — лётаць!

Побач з люстэркам ляжалі нажніцы, і ён адным рухам адрэзаў сабе першае крыло, адным рухам — другое. Два карункавыя плёсткі пераліваліся на стале каля ног Анёла, які... застаўся без крылаў.

Калі ў акно пастукалі з вуліцы, малы падарожнік уздрыгнуў і ўзняў вочы. За шклом усміхалася бабуля Зіма, а ў вачах яе стаялі слёзы.

— Мой светлы анёл! — ён даверліва ступіў на яе працягнутую праз шкло руку. — Ты самы добры, самы шчыры, самы міласэрны з усіх тваіх братоў і сясцёр. Не бойся, заўтра твая дзяўчынка сапраўды пачне хадзіць, а ты...

Яна ўзяла са стала адрэзаныя крылы і прыладзіла іх на месца — за спіну анёлу:

— Ты не застанешся без сваіх светлых крылаў.

Бабуля Зіма апусціла маленькага падарожніка на стол:

— Цяпер ты сапраўдны анёл-ахоўнік.

## 6

Наступнай раніцай дзяўчынка прачнулася і падумала, што бачыла гэтай ноччу самы чароўны на свеце сон. Яна села ў ложку і… не паверыла сваім вачам. На лапцы ёлкі, што стаяла побач, яна ўбачыла свайго анёла-ахоўніка.

— Няўжо? — бліснулі радасным прадчуваннем яе вочы.

— Няўжо! — зазвінеў Анёл, які двойчы ледзь не застаўся без крылаў.

Дзяўчынка паспрабавала ўстаць. Атрымалася! Закружылася па пакоі. Атрымалася! Пабегла да матулі на кухню, адкуль далятаў смачны пах імбірных пернікаў. Атрымалася!

Калі мама з дзяўчынкай вярнуліся да ёлкі разам, з яе насустрач ім зляцеў парушынкай Анёл, які ледзь не застаўся без крылаў.

# Паэтычная поўня і розныя рэчы

## З чым беларуская літаратура сустрэла новы год?

Толькі-толькі пачаўшы жыццё ў 2016 годзе, мы немінуча аглядаемся назад, у 2015-ы. І не таму, што там засталіся дарагія ўспаміны. Як бы нам, быць можа, ні хацелася, мяжа між гадамі застаецца штучнай — асабліва калі казаць пра творчы працэс. Мяркуйце самі: адныя літаратурныя навінкі прыйшлі да чытачоў як навагодні падарунак (напрыканцы снежня, прыкладам, выйшла новая кніга Андрэя Хадановіча). Іншыя кнігі з'явіліся летам ці ўвосень (як выбранае Леаніда Галубовіча), але гучаць яны будуць яшчэ доўга — дзякуючы сваёй мастацкай вартасці, значнасці ў сучасным літпрацэсе. Пра такія кнігі — самыя новыя і самыя значныя — пойдзе гаворка.

### МІКРАКОСМ ГАЛУБОВІЧА

«Поўня» Леаніда Галубовіча ўключыла найлепшыя вершы паэта — на яго думку. Яны лёгкія па гучанні, натуральныя, як тое лісце на дрэве, пра якое казаў Джон Кітс. Гэта сведчыць пра непадробнасць самое паэзіі, якую варта расцэньваць не як від мастацтва, але як яшчэ адну з'яву прыроды — нароўні з навальніцай, спёкай, замецю. Такую вяршыню не дасягнуць аднаму чалавеку. Леанід Галубовіч ведае гэта. «І так хочацца напісаць верш, ажно рукі свярбяць! І ведаю — што змагу. Аднак падсвядома нейчы голас мне кажа: без майго ведама і дазволу не псуй паперу».

У самых звычайных з'явах жыцця паэт бачыць сімвалы — і расшыфроўвае іх вершам. Пры гэтым найбольш гарманічныя вершы, радкі геніяльныя вырастаюць з вёскі. Яна разам з цэнтральнымі сваімі сімваламі (дрэва і травы, зоры і яблыкі, дарога, конь, хата і інш.) складае мікракосм, і ў ім адлюстроўваюцца законы сусвету.




### НАВУКА АДЧУВАННЯ

«Дзікая сліва» Валянціны Аксак, паводле анатацыі, раскрывае «свет несвядомай прыроды, першароднага граху і безабаронай душы. Свет, у якім згубіліся словы і знайшоўся сэнс». Сапраўды, звыклае разуменне вобразнасці неўжывальнае датычна новага вершаванага збору Валянціны Аксак. Яна быццам канстатуе, фіксуе ў кароткай фразе той ці іншы стан, але за гэтай фіксацыяй хаваецца больш. «Адкрыецца гэтая брама не перад кожным, а перад тым, хто здольны ўспрыняць найтанчэйшыя рухі душы лірычнай гераіні…» — слушна пазначае Віка Трэнас. «Вытанчаная жаноцкасць, шляхетная інтэлігентнасць і ўменне проста і карэктна распавесці пра складаныя сітуацыі і пра сэнс самога жыцця, безумоўна, прываблівацоць у гэтай кнізе». Названая прастасць хавае вельмі глыбокія пачуцці, і верш не раскрыецца адразу — патрэбны час на чытацкі роздум, а яшчэ больш — на пачуццё. Адчуць часам цяжэй, чым зразумець, ці не так?..

### КРАІНА, ЯКОЙ НЯМА

Людміла Рублеўская нездарма мае архітэктурную адукацыю. З кнігі ў кнігу яна працягвае будаваць краіну мары (пры гэтым разумеючы, што марай яна так і застаецца), узводзіць муры рамантызму пасярод акіяну шэрані. Працяг гэтага «даўгабуду» — «З'яўленне інфанты».

Стылістычна Людміла Рублеўская наследуе барока і рамантызм (які ў асобных выпадках «звужаецца» да готыкі). І часцей пераважае барока: суседства жыцця і смерці, разбурэння і раскошы, карнавальнага шалу і магільнай цішыні.

Для адпачынку ад гэтых крайнасцей, якія вымагаюць шмат сіл на сваё стварэнне (і нават сузіранне), у Людмілы Рублеўскай ёсць Сад. Ён далёкі ад Раю. Ён узрошчаны чалавекам на звычайнай, грэшнай зямлі і створаны зусім не для вечнага адпачынку. Але для паэта ў тым і шчасце: «сад мой на хвілю / зямлю маю зробіць шчаслівай».

Верш — абавязковая ўмова свабоды для Людмілы Рублеўскай, а Паэт — адзіна магчымая форма жыцця (замест ілжэбыцця). Героі яе — мысляры, шляхетныя асобы альбо блазны. У празаічным вымярэнні вершы Рублеўскай былі б навеламі: і справа нават не ў сюжэтнасці асобных твораў, але ў эмацыянальным напружанні, якое задаецца з першага радка і не паслабляецца да апошняга.

### КРОК У ЦІШЫНЮ

Праз тры гады пасля кнігі вершаў «Газета» Дзмітрый Строцаў зрабіў наступны крок. І гэты «Шаг» адкрываецца эпіграфам з артыкула Уладзіміра Бібіхіна пра развіццё думкі Хайдэгера: «Крок робіцца не ў бок ад цеснаты ў пазіцыю назіральніка, а ўнутр цяжару». Паэт пазбягае павярхоўнасці і легкадумна навешаных ярлыкоў. Яго крок — углыб сутнасці рэчаў. Гэта крок кароткі, упэўнены, але ціхі.

Як зазначыў рэцэнзент Аляксандр Маркаў, Уладзімір Строцаў у сваёй сарамлівасці нагадвае Веліміра Хлебнікава. «Сарамлівасць не проста ў прыродзе рэчаў, але сарамлівасць як гатоўнасць малітоўна застыць перад чужым неразуменнем. Проста дараваць злодзеям — для гэтага дастаткова быць велікадушным і верыць у перамогу дабра, але няпроста дараваць тым, хто "не разумее, што творыць"». І гэтыя біблейскія матывы ў дачыненні да паэзіі Дзмітрыя Строцава як нельга больш дарэчы.

### ПРЫХАВАНЫ АПТЫМІЗМ




Кніга Віктара Шніпа «Заўтра была адліга» складалася доўгі час і на вачах у шырокай публікі: пісьменнік сабраў пад адной вокладкай нататкі, якія змяшчаў у сацыяльнай сетцы. Сарцавіну кнігі склалі вершы. Большасць іх (як і большасць нататак) прысвечана бацькам паэта, якія пакінулі гэты свет. Гэтая страта і новае адчуванне свету без іх сталіся асновай кнігі, прадвызначылі яе настрой. Другі яе значны складнік — творчы погляд на свет. Віктар Шніп перастварае штодзённыя дробязі ў маленькія творы мастацтва, як, прыкладам, чырвоныя каскі будаўнікоў ператвараюцца ў баговак, што грэюцца пад веснавым сонцам. І, нягледзячы на мінорны лад кнігі, чытач адчуе аптымізм аўтара — што, зрэшты, закладзена і ў назву кнігі.

### «РОЗНЫЯ СЛОВЫ, РОЗНЫЯ РЭЧЫ…»

Таня Светашова — гэткая беларуская Вера Палазкова. Для тых, хто не чытаў ні першую, ні другую, трэба сказаць, што з-пад пяра гэтых маладых паэтэс выходзіць вельмі асабістая, нават занадта інтымная лірыка. Светашову з Палазковай яднае не толькі тэматыка вершаў, але і лексіка, вобразы, манера выканання. Як адзначае сама Таццяна, яе дэбютная кніга «Разные вещи» — збор унутраных маналогаў, у якіх уз'яднанае глыбока інтымнае і агульначалавечае, іронія і роспач і якія разгортваюцца ўнутры топасу Мінска — не вітрыннага, а нутраногa, сапраўднага. Паэзія Тані Светашовай падкупляе перш за ўсё шчырасцю, часам нават наіўнасцю. Але пры ўсёй душэўнасці і расхрыстанасці вершаў ім не хапае самабытнасці, адметнасці. Магчыма, калі б яны былі напісаны па-беларуску, то не ўзнікалі б асацыяцыі з Верай Палазковай. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя…

### ВАКОЛ СВЕТУ ЗА 1820 ДЗЁН

«Цягнік Чыкага — Токіё» — першая за пяць год кніга ўласных




«дарослых» вершаў Андрэя Хадановіча. На пачатку XXI стагоддзя паэт часта выдаваў кнігі ўласнай паэзіі, але апошнія гады выходзілі толькі пераклады ды кніга дзіцячай паэзіі «Нататкі-таткі». Большая частка новай кнігі Андрэя Хадановіча — вершы-падарожжы, верлібры і рыфмаваныя падарожныя нататкі. Пэўныя цыклы перабіваюцца перакладамі любімых песень паэта. У гэтай кнізе, зразумела, ёсць нейкія прыёмчыкі знаёмага чытачу Хадановіча, можна будзе пабачыць і цытаты, і іронію, але на фоне большасці кніжак у гэтай выказванні досыць шчырыя, лірычны герой, калі ён і ёсць, максімальна набліжаны да аўтара. Адна з асаблівасцей кнігі — ілюстрацыі вядомага нямецкага мастака-графіка Райнхарда Кляйста. На адным перфомансе Андрэй Хадановіч зачытваў вершы і спяваў пераклады песень, а Кляйст па ўражаннях ад твораў маляваў на вачах публікі скетчы-імправізацыі — іх ён дазволіў выкарыстаць у кнізе. Такім чынам, выданне «Цягнік Чыкага — Токіё» атрымалася годным як па форме, так і па змесце. Рэкамендуем для прачытання!




### У КНІГАРНЮ ПА «ЧАРАВІЧКІ»

«Ботиночки» Георгія Барташа — адна з лепшых кніг 2015 года. На першы погляд, нічога асаблівага: лірычны герой — звычайны чалавек, сюжэты — побытавыя, нават шараговыя. Але ж у гэтай прастаце і тоіцца найвялікшы паэтычны талент: толькі сапраўдны майстар слова можа так тонка, іранічна, часам са скепсісам і сарказмам апісваць будзённыя з'явы. Вершы Георгія Барташа прымушаюць смяяцца да слёз і горка сумаваць, марыць пра будучыню і настальгічна ўздыхаць, узгадваючы мінулае. Кніга «Ботиночки» — своеасаблівы калейдаскоп: пры кожным прачытанні адкрываеш новыя вобразы і сэнсы, бясконца глыбокія і прыгожыя. Прыемным бонусам сталі пераклады беларускай паэзіі ад класіка Максіма Багдановіча да сённяшняй маладой паэзіі Таццяны Сівец, Вікі Трэнас, Наталлі Капы і іншых. Сам паэт распавядае пра сваё выданне крыху заблытана, як пра трагікамічнае падарожжа аднаго аўтара ад падлеткавай лірычнасці да дарослых расчараванняў, ад вершаванай дыдактыкі да бессаромнага мадэрну. Але, напэўна, самае галоўнае, што хоча данесці нам Георгій Барташ сваёй кнігай: шчасце — не ў чаравічках ці іншых рэчах, а ў нас саміх.

### АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ РЫБАЛКІ

Андрэя Адамовіча многія чытачы ведаюць як цікавага паэта, майстра тонкага гумару і вострага слова. Верлібры Адамовіча запомняцца кожнаму, хто хоць аднойчы іх чуў ці чытаў: трапнасць, афарыстычнасць, сарказм — вось асноўныя інструменты маладога творцы. Але напрыканцы 2015 года пісьменнік парадаваў сваіх (і не толькі) чытачоў навелай пад дзіўнай назвай «Таўсціла і лешч». Тры сябры выпраўляюцца на начную рыбалку. Максім мусіць злавіць ляшча. Ён добра ведае стратэгію і тактыку лоўлі вялікай рыбы, шматлікія хітрыкі. Але вось ужо два гады яму не шанцуе. Ці дасць ён рады гэтым разам? Адказ — у кнізе.

### ШЛЯХ НА ГАРУ

Голас паэта Ігара Кулікова вельмі лёгка пазнаць. Сярод іншых творцаў свайго пакалення ён вылучаецца неверагоднай любоўю да мовы і моватворчасці, шмат разважае пра пошук уласнага шляху. Нельга сцвярджаць, што паэзія Ігара даступная, зразумелая і прасталінейная. Хутчэй наадварот: выбудоўваючы лабірынты сэнсаў, вобразаў, аўтар нібыта выпрабоўвае чытача, правярае, ці здолее ён зразумець, адчуць. Але той, чые думкі і пачуцці будуць тоеснымі паэтавым, застанецца з ім надоўга.

Кніга «Сівер-гара» Ігара Кулікова — бадай, адно з найярчэйшых паэтычных выданняў мінулага года. І не толькі таму, што ў ёй аўтар працягвае ўласныя пошукі і моўныя эксперыменты (за імі так цікава назіраць!), але таму, што Ігар вельмі пільна і ўважліва ставіцца да кожнага слова, радка, вобраза, распрацоўвае канцэпцыю кнігі. Перад намі — не проста зборнік вершаў, але кніга паэзіі (паводле задумкі аўтара, нават паэма). Тут кожны твор — на сваім месцы, кожны верш гучыць ва ўнісон з астатнімі, а наступны тэкст працягвае папярэдні.

### ЗАМЕСТ ПАСЛЯМОЎЯ

Яшчэ летась выдавецкі дом «Беларуская навука» анансаваў сярод сваіх праектаў збор твораў Яўгеніі Янішчыц, дакладней, першы яго том. Лагічна было б чакаць яго з'яўленне ў годзе 2016-м. Так, паводле заяўленых звестак, першы том мусіць выйсці накладам 1000 экзэмпляраў і каштаваць 67 000 рублёў. У яго будуць уключаныя вершы са зборнікаў «Снежныя грамніцы», «Дзень вечаровы» і «Ясельда». Таксама будуць прыведзеныя каментары да вершаў і дадатак — хроніка жыцця і творчасці паэтэсы, як радавод.

Шматабяцальны анонс дае таксама «Мастацкая літаратура»: сёлета выйдзе новая кніга ў серыі ЖЗЛБ і прысвечаная яна будзе Кузьму Чорнаму. Кніга змесціць успаміны пра пісьменніка, датаваныя збольшага 1930 — 40-мі гадамі.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**Дар'я ЛАТЫШАВА,**
**Марына ВЕСЯЛУХА**



# У моры папяровым

**Часопісная публікацыя… Словазлучэнне, якое вымушае сэрцы юных паэтаў узмоцнена біцца. Вось тое, чаго так прагне пачатковец, вось тое, чаго не менш зацята чакае сталы аўтар. Але ёсць адно «але». Штомесяцовыя напластаванні паперы, чарада імёнаў, уласна тое, што літпрацэс — сапраўды працэс, хуткаплынны і шматаблічны, — усё гэта прыводзіць да ненаўмыснага забыцця. Акром таго, па асобных нумарах літчасопіса цяжка вывесці цэласны яго партрэт.**

Прапаноўваю чытачам абнавіць памяць, вярнуцца на год назад і вылучыць самыя яркія, самыя значныя з мастацкага пункту гледжання публікацыі ў «Полымі», «Нёмане» і «Маладосці». Суб'ектыўны фактар тут ніяк не абмінуць, таму, калі вы не згодныя з прыведзеным спісам і хочаце прапанаваць свой, лістуйце на адрас «ЛіМа».

Таксама адзначу, што пад разгляд не бяруцца публіцыстычныя і навуковыя тэксты, пераклады, — толькі арыгінальныя мастацкія творы. Асобна падкрэсліваю: гэта не рэйтынг — спіс.

## «ПОЛЫМЯ»

Пра «Полымя»-2015 можна смела сказаць: рэй вядуць міфалогія і фантастыка. Таксама часопіс шмат увагі надаў успамінам у розных формах: мемуары, аўтабіяграфічныя аповеды, лісты і інш. І якраз з успамінаў мы пачнём.

**1. Дзённікі Міколы Лобана** (апрацоўка Аляксандра Вашчанкі). Можна абвінаваціць мяне ў тым, што не стрымаў слова разглядаць адно мастацкія творы. Але дзённікі гэтага навукоўца, чыёй працавітасці і самаадданасці можна пазайздросціць, успрымаюцца як аповесць ад першай асобы. Сам апавядальнік пры гэтым застаецца на другіх ролях. Самае значнае для яго — праца, і пра яе Мікалай Паўлавіч распавядае бясконца: «…я пакляўся ўсё сваё жыццё аддаць для беларускага народа, для яго культуры. Пачаў працаваць над выхаваннем свайго характару і звычак, якія б дапамагалі дасягненню задуманай мары». А працаваў ён (збольшага) над стварэннем руска-беларускага слоўніка ў складзе камісіі пры прэзідыуме Акадэміі навук БССР. Пры гэтым уставаў а чацвёртай раніцы, каб пісаць яшчэ і сваё. «Полымя» надрукавала дзённікі за 1944 — 1965 гады. Так паўстае карціна аднаўлення краіны пасля вайны, прычым складаецца яна з маленькіх дэталяў, штрыхоў, невялікіх партрэтаў — а з такіх дробязяў і атрымліваюцца выявы самыя дакладныя, самыя маляўнічыя.

**2. Вершы Васіля Зуёнка.** Яны дыхаюць тым спакоем, што даецца чалавеку, які змірыўся з выбрыкамі жыцця. Паэт не прэтэндуе на вялікую ўвагу. Ён быццам гаворыць чытачу: хочаш — чытай, хочаш — праміні. Але прамінуць цяжка, бо ў яго няма выпадковых радкоў, няма жадання здавацца, а не быць. Між іншых паэтаў «Полымя» ён, без сумнення, першы.

**3. Віктар Казько «Сірэна».** Адно яго прозвішча абяцае: у нумары будзе што пачытаць… Маленькая вёска, паўжывая ад спёкі — і ад вайны, якая змяла за сабою ўсіх мужчын, што маглі трымаць зброю. Многія не прыйшлі. А тыя, што вярнуліся, у разгубленасці: як размаўляць з сынам, які нечакана пасталеў? Як увогуле жыць? Рэмарк у свой час разгарнуў не адзін балючы маналог на гэтую тэму; Віктар Казько ў адной сцэне каля калодзежа намаляваў усё, што трэба. У «Сірэне» пераважае трывожнае пачуццё бяды, тым больш горкае, што трэба было б радавацца. Трывога гэтая ўрэшце выліваецца ў аглушальную сірэну. Гэта знак бяды, пераўвасоблены ў гук. Захапляе і майстэрства, з якім Віктар Казько паказвае жанчын. Ён адначасова глядзіць на іх збоку, паказваючы тое, што яны самі хацелі б паказаць староннім, і раскрывае сапраўдныя пачуцці. Сярод іх — тая ж трывога (чым пракарміцца? як быць адной?) і зайздрасць, пякучая жаночая зайздрасць (ёй добра, да яе муж вярнуўся; ёй добра, у яе дзеці).

**4. Адам Глобус «Вучэльня».** Яго фразы падобныя да кашэчых лапак — мяккія і з прыхаванымі кіпцюрамі. Адам Глобус распавядае пра час, калі мастацтва жыць і жыццё ў мастацтве для яго толькі пачыналася. Уласныя перажыванні займаюць у гэтых лаканічных і трапных занатоўках менш месца, чым партрэты тых, хто акаляў аўтара ў мастацкай вучэльні (дый за яе межамі). Да юнацкіх успамінаў дадаюцца заўвагі ўжо сталага Глобуса. І на сябе самога ён паглядае крыху звысок, з такой жа ўсмешкай, як і на іншых сваіх герояў. Асэнсаваўшы многае, ён робіць высновы пра свет мастацтва і ўвогуле — пра чалавечую прыроду. А выснова быццам бы толькі адна: мы такія, якія ёсць, і на тым дзякуй.

**5. Уладзімір Сцяпан «Гульні».** Таксама мастак, таксама празаік. Ён па-свойму лаканічны, але больш лірычны. У дакументальнай аповесці, разбітай на часткі, Уладзімір Сцяпан згадвае сяброў дзяцінства. Якія ўсе мы раней былі шчырыя і светлыя, нягледзячы на не самыя бязвінныя гульні, — і якія сталі (іншых няма й зусім). Ува ўсіх расповедах чуецца самы непадробны сум па тым, чаго не вярнуць, і па чалавеку ў табе самім, якога не вярнуць таксама.

**6. Людміла Рублеўская «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата».** Па адной толькі назве зразумела, у якія прыгоды патрапяць гэтым разам полацкі доктар Баўтрамей Лёднік і шляхціч Пранціш Вырвіч. Раман, які ў адрозненне ад першых трох выйшаў спачатку ў часопісным варыянце, — завяршэнне тэтралогіі. Цяпер Лёднік і Вырвіч не складаюць кантраст: першы нібыта (важнае слова) змякчыўся, другі — пасталеў. Людміла Рублеўская па-ранейшаму ўтрымлівае атмасферу XVIII стагоддзя — і не толькі дзякуючы апісанням строяў, страў, гарадоў, партрэтаў выпадковых мінакоў, але і стылістычна. Фінал рамана быццам бы намякае на тое, што працягу не будзе. Але часціца «бы» чамусьці не дае на сябе забыцца.

**7. І як не згадаць паэму Тацяны Сівец «Баку».** «Баі ў маім сэрцы ідуць з пераменным поспехам: / нехта параненым, нехта прапаў без вестак…» Вылучыць адную тэму немагчыма; хіба толькі — свабода. Прычым свабода з пушкінскага «нет счастья, есть покой и воля». Жанчына, вызваленая ад усіх масак і абавязкаў, але не ад непазбежнай самоты — як бы ні сцвярджала яна, што не будзе адна, пакуль знаходзіцца ў Баку. І — уражанні, перастворaныя ў вобраз.



Калаж Віктара Калініна.

## «НЁМАН»

Сёлета ён шмат увагі надаў 70-годдзю Вялікай Перамогі. Асабліва заўважна гэта па раздзеле паэзіі, прычым часцей за ўсё аўтары пісалі пра сваё паваеннае дзяцінства. Што яшчэ цікава, у раздзеле прозы, без пазнакі «Замежная літаратура», надрукаваны ўрывак з рамана Захара Прылепіна «Обитель». Але мы звернемся да айчынных аўтараў.

**1. Станіслаў Дзяркач «Леў».** Такое апавяданне хутчэй можна пабачыць у «Маладосці»: малады празаік піша пра вострыя праблемы сучаснасці. Тут — пра наркаманію. Ён не дае ацэнак гэтай з'яве, не асуджае: проста выварочвае свядомасць наркамана, скажоную, часам жудасную. Дыялогі ў яго натуралістычныя, апісанні наркатычных станаў — таксама. «Леў» найперш не аповед пра самую загану, але пра чалавека, які стаў яе заложнікам.

**2. Алена Папова «Песня блистающей химеры».** Пасляваеннае дзяцінства і юнацтва дзяўчыны, калі прыгожы гузік — радасць, а балонавы плашчык — неацэнны скарб. У такіх варунках усе перажыванні і адкрыцці вастрэйшыя: першая цыгарэта, першая «сяброўка на ўсё жыццё», першая горкая закаханасць, першая страта. Алена Папова піша як зачароўвае; яна не звяртае ўвагу на нязначныя рэчы, і калі згадвае той жа гузік, той жа плашчык, ты разумееш, што яны ў сусвеце дзяўчынкі — рэчы рытуальнай значнасці.

**3. Яўген Галайдзін «Пісьма».** Не толькі ў вершах гучала вайна, але і ў прозе. Без залішняга пафасу аўтар апісвае будні вайскоўцаў, якім не пашчасціла апынуцца на перадавой. Самае дарагое тут — сувязь з роднымі, якія падтрымліваюць толькі лісты. Галайдзін апавядальнік вельмі мяккі, нават лірычны, але гэта не змяншае вастрыні аповеду. Сказаць шчыра, гэта адзіная апавяданне ў «Нёмане», якое мяне ўзрушыла ледзьве не да слёз. Што тут яшчэ дадаць.

**4. Вершы Тацяны Лебедзевай, Георгія Кісялёва, Канстанціна Скварцова, Юрыя Мацюшкі.** Цяжка казаць пра ўсіх разам, але ёсць рыса, агульная для названых аўтараў, — лёгкае, натуральнае гучанне радка ў спалучэнні з небанальнасцю. Кожны з іх, вядома ж, варты асобнага прачытання.

## «МАЛАДОСЦЬ»

Калі ў «Полымі» фантастычная проза вылучаецца, то ў «Маладосці» яна пераважае. Пэўна, да выдуманай рэчаіснасці маладых аўтараў падштурхоўвае недастатковы «фактычны матэрыял», малы жыццёвы досвед. Гэтаксама заўважна, як аўтары хочуць ахапіць неахопнае. Пачынаюць распавядаць гісторыю — і абавязкова ўвядуць некалькі флэшбэкаў, з падрабязнымі апісаннямі. Але гэта не заўсёды патрэбна. Няварта імкнуцца сказаць адразу ўсё — у недасказанасці таксама хаваецца талент. І, вядома ж, ёсць выключэнні з агульнай карціны.

**1. Мікіта Волкаў «Плюх».** Як і «Леў» Дзяркача, «Плюх» — жорсткая копія з рэчаіснасці. Але маладосцеўскі аўтар больш лаканічны, ён не заглыбляецца ў свядомасць герояў, дый гэта непатрэбна. Студэнты-практыканты ўпершыню прысутнічаюць на аперацыі, і не проста аперацыі — на іх вачах маладой, як яны самі, дзяўчыне робяць аборт. Плюх, плюх — гэта гукі, з якімі перарываецца жыццё. Мікіта Волкаў не захапляецца натуралістычнымі апісаннямі, каб напалохаць чытача; тут дастаткова некалькіх сказаў. Ён цудоўна разумее кошт кароткай фразы, і ўжо ў гэтым бачыцца вялікі яго патэнцыял як празаіка. Сярод іншых аўтараў, што выступілі сёлета ў прозе «Маладосці», Мікіту Волкава вылучае творчая «сталасць». У двукоссі, бо праца, вядома ж, незавершаная: трэба яшчэ шукаць адзіна патрэбнае слова, штрых, які заменіць абзац тэксту, але ў параўнанні з іншымі празаікамі-дэбютантамі Мікіту Волкаву бліжэй да сталасці без двукоссяў.

**2. Як і Кацярыне Мядзведзевай,** якая двойчы выступіла ў прозе «Маладосці»: гэта аповесці **«Чараўнік для Дэйсі Мэй»** і **«Чорныя ружы»**. Яна якраз той апавядальнік, якога так не хапае (прынамсі, мне як чытачу). Які? А проста — апавядальнік. Яе творы — сапраўдныя гісторыі з завершанымі персанажамі і выразным сюжэтам. Аўтарка не злоўжывае лішнімі адступленнямі, вяртаннямі да папярэдніх падзей, клічнікамі і шматкроп'ямі, словам, яна па-добраму ўраўнаважаная. Яе проза чытаецца, гэта значыць, ты не бачыш жадання зрабіць нешта нечаканае, сказаць неяк незвычайна, вылучыцца, — ты проста чытаеш, ты трапляеш у аповед і зжываешся з героямі. У такой простасці хаваецца альбо сапраўдны талент, альбо вялікая доўгая праца (ці спалучэнне таго і другога). Кацярына Мядзведзева — аўтар, чыю кнігу насамрэч хочацца прычакаць.

**3. Вершы Анастасіі Кацюргінай.** У яе асобе беларуская літаратура можа займець цудоўнага лірыка. Інтымная паэзія спадарыні Анастасіі народжаная сапраўдным пачуццём, а не яго чаканнем ці юнацкімі фантазіямі. Прынамсі, такое ўражанне яны ствараюць: выплаўлены з жарсці і астуджаны да верша крышталь. Паэтэса не зрываецца на плач ці галашэнне, і жывое пачуццё не замінае ёй знайсці новы, сапраўды новы вобраз, хоць, здавалася б, што новага, гаворачы пра каханне, можна сказаць.

**4. Вершы і проза Касі Глухоўскай.** Аўтар, якога апошнім часам даводзіцца даволі часта згадваць. І ад якога яшчэ больш даводзіцца чакаць. Адкуль бярэцца ў яе творах столькі жыцця і святла — пытанне, але адказ на яго шукаць не хочацца. Галоўнае, што аўтарка захоўвае непасрэднасць бачання і выяўлення, застаецца дзіцём ва ўспрыняцці і інтэрпрэтацыі рэчаіснасці, а ў творчасці — узважаным, упэўненым у сабе аўтарам.

**5. Саша Тэмлейн, апавяданні. Валерый Гапееў «Пра мару, хлопчыка і стрэмку».** Падставы аб'яднаць гэтых аўтараў дае тое, што ў «Маладосці» яны выступілі ў казачна-прытчавым жанры. У Валерыя Гапеева больш іроніі, знарочыстага прастамоўя; у Сашы Тэмлейн — казачнасці.

На жаль, на гэтым давядзецца спыніцца, хоць у той жа «Маладосці» трэба вылучыць яшчэ і аповед Настассі Нарэйка «Ні ўчора, ні сёння… ніколі», верш Людкі Сільновай «Дзве сукенкі», верш Насты Кудасавай у калядняй падборцы і вершы Фелікса Баторына пад агульнай назвай «Калаўрот».

Чакаем першыя нумары новага года.

**Андрэй ЖБАН**

# ГЕНій Мулявіна

**Адзін з аўтараў успамінаў пра Уладзіміра Мулявіна, што ўвайшлі ў новую кнігу «Уладзімір Мулявін. "Сэрцам і думамі..."», якая не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», зазначыў: у жыцці таких выдатных, знакавых асоб, як Уладзімір Георгіевіч, ёсць толькі адна дата — дата нараджэння, а потым пачынаецца Вечнасць. Вечнасць памяці пра неверагодны талент, захапленне ім.**



Фота Кастуся Дробава.

*Уладзімір Мулявін, сярэдзіна 1970-х гадоў.*

Складана не пагадзіцца з гэтым выказваннем. Здаецца, Уладзімір Мулявін, чыё 75-годдзе сёлета будзе шырока адзначацца, стаў не проста часткай нашай нацыянальнай культуры, узвысіў узровень беларускай песні, звярнуў увагу шырокай публікі на фальклор, зрабіў яго модным, але і ўвайшоў у генетычны код нацыі. Яго творы дзіўным чынам гучаць у свядомасці, у памяці кожнага з нас, а пра асобу творцы амаль кожны беларус, які нават і не быў знаёмы са знакамітым "Песняром", можа сказаць нешта сваё, глыбока асабістае. Вось, напрыклад, гісторыя майго імені. Мяне клічуць Марынай, бо менавіта так калісьці Уладзімір Георгіевіч назваў сваю дачку. Тата заўсёды захапляўся асобай Уладзіміра Мулявіна, творчасцю «Песняроў». Іх песні я чула з самага дзяцінства, пазней, ужо на ўроках беларускай літаратуры пазнавала знаёмыя вершы нашых класікаў. Калі ў пачатку 2004 года Уладзіміра Мулявіна не стала, мы ўсёй сям'ёй наведалі яго магілу на Усходніх могілках…

Кнігу пра Мулявіна «Ноты лёсу», што калісьці распачала серыю «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» выдавецтва «Мастацкая літаратура», тата адразу ж набыў. Доўга, удумліва чытаў, разглядаў фотаздымкі. Гэтае выданне — цяпер сапраўдная бібліяграфічная рэдкасць — сёння займае пачэснае месца ў нашай хатняй бібліятэцы. А калі са старонак пераднавагодняга «ЛіМа» тата даведаўся пра з'яўленне новай кнігі «Уладзімір Мулявін. "Сэрцам і думамі..."», то запытаўся: «А ў мяне яна хутка будзе?»

Думаецца, разам з маім татам гэтую кнігу чакаюць многія адданыя прыхільнікі Мулявіна і «Песняроў», і можна быць упэўненым, што яны не застануцца расчараванымі. На старонках выдання, укладзенага Людмілай Крушынскай, успамінамі пра выдатнага музыканта дзеляцца яго сябры і калегі, пра яго жыццё і творчасць распавядаюць шматлікія фотаздымкі. Тут можна знайсці поўную творчую біяграфію «Песняроў», а таксама спіс музыкантаў, якія ў розныя часы былі ўдзельнікамі гэтага знакамітага калектыву. І гэта не толькі расповед пра асобу і творчасць, але і спроба аналізу вытокаў, мулявінскага рэха ў айчыннай культуры, музыцы сучасных выканаўцаў.

Так, да прыкладу, паэт Андрэй Скарынкін падзяліўся сваімі дзіцячымі ўспамінамі і распавёў чытачам, што неяк у лагеры ён моцна захварэў, забалела горла, таму не змог спяваць на дзіцячым конкурсе. Але не разгубіўся і сваю любоў да «Песняроў» выказаў па-іншаму: заняўся лепкай з пластыліну і вылепіў ансамбль у поўным складзе з гітарамі, скрыпкай, раялем і нават гукаўзмацняльнікамі. За сваю работу маленькі Андрэй атрымаў перамогу на конкурсе і залаты медаль.

А вось сучасныя рок-, фолк-, нават поп- і панк-выканаўцы прызнаюцца, што калі ўплыў Мулявіна і «Песняроў» на іх творчасць нельга прасачыць дакладна і вызначыць пэўныя перанятыя моманты, то асноўны дух, адчуванне мулявінскага пляча заўсёды прысутнічае. На старонках кнігі сваімі развагамі пра ролю спадчыны Уладзіміра Георгіевіча ў іх творчасці дзеліцца лідар гурта «Крама» Ігар Варашкевіч, заснавальнік «Палаца» Алег Хаменка, кіраўнік калектыву "Нагуаль" Леанід Паўлёнак і нават саліст панк-гурта «Нейра Дзюбель» Аляксандр Кулінковіч. Дарэчы, некаторыя прыхільнікі класічных «Песняроў» надта кансерватыўныя і не прымаюць кавер-версій песняроўскіх песень, не любяць, калі кампазіцыі выконваюцца па-іншаму. Але расповед Кулінковіча пацвярджае, што сам Мулявін ухваляў розныя, нават самыя смелыя і нечаканыя інтэрпрэтацыі ўласных песень. Панк-музыкант распавёў, што напярэдадні цырымоніі «Рок-каранацыя» 1998 года, калі сімвалічную рок-карону мусілі ўручаць менавіта «Нейра Дзюбелю», даведаўся, што ўзнагароду гурт будзе атрымліваць менавіта з рук Уладзіміра Мулявіна і Анатоля Кашапарава:

«У нашым рэпертуары ёсць песня «Волагда» — гэта кавер-версія, якую мы зрабілі для дыска «Песнярок». Мы не планавалі яе граць у той вечар, але калі я раптам даведаўся, што нам выпаў гонар стаяць на сцэне разам з самімі «Песнярамі»… Памятаю, за кулісамі я падышоў да Уладзіміра Георгіевіча і сказаў: «Дзядзька Валодзя, а давайце заспяваем разам!». Ён усміхнуўся ў вусы — і пагадзіўся».

Гэтае выступленне памятаюць многія прыхільнікі айчыннай музыкі. Было сапраўды ярка, нечакана, па-новаму. Як і любіў Мулявін, бо, па ўспамінах удзельнікаў «Песняроў», фраза «Гэта ўжо было» ў яго вуснах мела дакладна негатыўны сэнс. У музыцы ён цаніў перадусім прыгажосць і шчырасць. А што можа быць больш шчырым, чыстым і непаўторным, чым народная песня? Кажуць, што некалі малады Мулявін, тады яшчэ студэнт Свярдлоўскага музычнага вучылішча, марыў стварыць адну агульную вялікую работу, якая паказала б прыгажосць і непаўторнасць беларускай, рускай і ўкраінскай песні. Больш дэталёвы аналіз паказаў, што ўсё ж фальклор гэтых народаў моцна адрозніваецца і не можа быць аб'яднаны, таму засяродзіўся толькі на Беларусі.

Нашай краіне пашанцавала, што менавіта сюды юнак з расійскага Свярдлоўска прыехаў працаваць у філармоніі, адслужыў у войску ды так і застаўся жыць у сталіцы? Што менавіта беларускі фальклор захапіў яго настолькі, што стаў творчым крэда, мэтай, цэлым жыццём? Што поруч з народнай песняй ён палюбіў і беларускую класічную паэзію Купалы, Багдановіча, Куляшова, Броўкі, а потым праславіў яе на ўвесь свет?

Можна доўга шукаць адказы на гэтыя пытанні, спрабаваць разгадаць феномен Мулявіна, які, нават не маючы сярэдняй музычнай адукацыі, ствараў неверагодна таленавітыя аранжыроўкі, пісаў песні, ператвараў класічныя паэмы ў маштабныя рок-оперы. Але гэта ўжо частка гісторыі: дзякуючы Мулявіну і «Песнярам» усе народы былога СССР даведаліся пра беларускую музыку, палюбілі яе. Больш за тое, дзякуючы гэтым неверагодна таленавітым музыкам пра Беларусь даведаўся ўвесь свет.

За гады існавання «Песняры» прадстаўлялі нашу краіну ў 56 краінах свету, калектыў выпусціў 10 дыскаў-гігантаў агульным тыражом 12 мільёнаў асобнікаў, стаў першым уладальнікам «Залатога дыска» СССР. І гэта толькі частка творчага набытку гурта. Многія кампазіцыі не былі запісаныя на прафесійных студыях, выконваліся толькі на канцэртах і іх аматарскія запісы ўсё яшчэ захоўваюцца толькі ў асабістых архівах прыхільнікаў. Больш за тое, нягледзячы на наяўнасць мноства ўжо апублікаваных фотаздымкаў Мулявіна і «Песняроў», асабістыя архівы фотамайстроў яшчэ хаваюць каштоўныя скарбы.

Кажуць, што вялікае лепш бачыцца на адлегласці. Магчыма, гэтае выказванне справядлівае і ў адносінах да творчасці Уладзіміра Мулявіна. Каб асэнсаваць яго феномен, прааналізаваць мулявінскі ген, які ўжо стаў агульным для некалькіх пакаленняў беларусаў, патрэбна не адно дзесяцігоддзе. І, пагадзіцеся, цікавей шукаць, калі ведаеш, што ёсць верагоднасць знайсці нешта сапраўды істотнае, значнае. Больш за тое, такая праца не будзе марнай, бо яе асвятляе зорка Мулявіна.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Як постаць Уладзіміра Мулявіна бачыцца сённяшнім музыкантам, якія маюць непасрэдныя адносіны да фальклору? Ці адчуваюць яны ўплыў яго асобы і здабыткаў «Песняроў» на ўласную творчасць? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да лідараў папулярных гуртоў, якія маюць дачыненне да беларускай народнай песні.**

**Іван Кірчук, лідар этнатрыа «Троіца»:**

— Мы прымалі ўдзел у праекце «Песнярок», дзе рознымі гуртамі, спевакамі выконваліся найлепшыя песні «Песняроў», і перамаглі ў гэтым конкурсе. Вельмі прыемна, што Уладзімір Мулявін ацаніў нашы версіі кампазіцый гурта. Калі я яшчэ жыў у Лідзе, то прыязджаў у Мінск амаль на ўсе выступленні «Песняроў». Памятаю юбілейны канцэрт у Палацы спорту, які доўжыўся амаль чатыры з паловай гадзіны! На жаль, асабіста мы з Уладзімірам Георгіевічам не былі знаёмыя. Часам сустракаліся, бачылі адзін аднаго на канцэртах, але пазнаёміцца не пашчасціла.

**Аляксандр Дземідзенка, лідар рок-гурта *Re1ikt*:**

— Шмат у чым дзякуючы асобе Уладзіміра Мулявіна і наш гурт пачаў звяртацца да беларускай народнай песні. Гэта бясспрэчны прыклад, на які можна было спасылацца. Уладзімір Георгіевіч уразіў і запомніўся тым, што так моцна пранікнуўся беларускай культурай (хаця сам нарадзіўся ў расійскім Свярдлоўску) і прыцягнуў да яе ўвагу ва ўсім свеце. Нягледзячы на тое, што «Песняры» былі эстрадным ансамблем, у іх было вельмі шмат сапраўды цікавай, складанай і прагрэсіўнай музыкі.

**Сяржук Доўгушаў, кіраўнік фолк-гурта *Vuraj* і музычнага праекта *Fratrez*:**

— Мы збіраем фальклор, робім песні на аснове народных, а вядомая постаць у гэтай галіне — Уладзімір Мулявін. Ён папулярызаваў беларускую песню, шмат зрабіў, каб пра народную музыку праз творчасць «Песняроў» даведаліся многія. Таму гэтая асоба для нас, безумоўна, — творчы арыенцір. Часам, калі мы выступаем у розных беларускіх гарадах, нам кажуць: «Гэта паслядоўнікі Мулявіна». Ці мяне часам называюць «другім Мулявіным». Гэта, канечне, паказальнік! Я працую ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, тут пра Уладзіміра Мулявіна памятаюць, часта згадваюць яго імя. Гэтая асоба — ужо частка нашай гісторыі, з якой пачаўся адлік увагі да фальклору. Таму мы, бузумоўна, ставімся з павагай да таго, што зрабілі Улядзімір Мулявін і «Песняры».

**Вячка Красулін, дудар, лідар фолк-панк гурта «Кашлаты Вох»:**

— «Песняроў» пачуў першы раз у дзяцінстве, калі глядзеў мультфільм «Ну, погоди!», гэта была песня «Касіў Ясь канюшыну». Потым апынулася, што ў бабулі ёсць вініл найлепшых песень гурта, але здагадаецеся, якую песню я маніякальна заслухваў? Ужо потым, калі вучыўся ва ўніверсітэце, вырашыў паслухаць запісы залатога складу. Яны сапраўды гучалі свежа і арыгінальна для свайго часу. Фірма грамзапісу «Мелодия» яшчэ і моцна дапамагла гурту прагрымець на ўвесь СССР, шырэй — на ўвесь свет. Нават *The Beatles* ацанілі аранжыроўчыны талент Мулявіна і вакальныцкі ўзровень ансамбля.

Яшчэ неяк прачытаў, здаецца, пра першы канцэрт «Песняроў» у Полацку. Прыехалі гэткія «валасацікі» ў дзіўных касцюмах, што для 1960-х глядзелася як сапраўдны выклік грамадству. У выніку нейкі чыноўнік з кіраўніцтва горада сказаў хлопцам: «Ці ў цырульню, ці канцэрт адмяняецца!» Мастацтва патрабуе ахвяр.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Зярняты з чужой глебы

**Пераклад мастацкіх твораў з замежных моў на родную — гэта не проста магчымасць пазнаёміцца з новымі сюжэтамі, героямі. Гэта яшчэ і выпрабаванне самой мовы-рэцыпіента на трываласць: ці здолее яна адэкватна выказаць, перадаць усе сэнсы, адценні арыгінала. Гэта і ўзбагачэнне «тэматычнага багажу» літаратуры, магчымасць паглядзець на свет і чалавека ў ім зусім з новага гледзішча. Таму можна сцвярджаць, што мінулы год, калі выйшла неверагодна вялікая колькасць важных, значных кніг у перакладзе на беларускую, даў чытачам мноства тэм для размоў, пазнаёміў з цікавымі героямі, а таксама яшчэ раз даказаў: наша мова жывая і гнуткая.**

## КЛАСІЧНАЕ

Багацце нацыянальнай літаратуры часам ацэньваюць і па наяўнасці перакладаў замежнай класікі. Летась беларускі чытач атрымаў некалькі выдатных падарункаў. Так, пад заслону года быў прэзентаваны пераклад фінскага эпасу «Калевала» ў перастварэнні Якуба Лапаткі. Па-беларуску загаварыў знакаміты д'ябал-філосаф Круцель — выйшлі «Лісты Круцеля» Клайва Льюіса ў перакладзе з англійскай Францішка Корзуна. Выйшлі і «Казкі» Вільгельма Гаўфа (пераклад з нямецкай Альгерда Бахарэвіча), і «Нататкі пра Шэрлака Холмса» Артура Конан Дойла — ужо другая кніга гісторый пра таленавітага дэтэктыва, перастворанай цэлай камандай перакладчыкаў часопіса «ПрайдзіСвет».




І калі з мэтазгоднасцю выкананння перакладаў невядомых кніг усё зразумела, то наконт перастварэння твораў, якія раней перакладаліся на рускую мову і ўжо добра вядомыя чытачу, узнікае вялікае і спрэчнае пытанне: навошта? Адна з перакладчыц Шэрлака на беларускую мову Марыя Мартысевіч, якая прызналася, што вырасла на гісторыях пра Холмса, сваё жаданне здзейсніць новы пераклад тлумачыць менавіта імкненнем даць магчымасць дзецям у Беларусі чытаць гэтыя кнігі па-беларуску. Марыя кажа:

— Я веру, па-першае, у беларускамоўную адукацыю, а па-другое, у тое, што армагедон з планшэтамі неўзабаве мінецца, і чалавецтва вернецца да кнігі як да фармату.

Больш за тое, у імкненні ажыццявіць менавіта новы пераклад з англамоўнага арыгінала гісторый пра Шэрлака Холмса ёсць і іншыя прычыны. Гэта перадусім змена стаўлення да рэалій англійскага грамадства Віктарыянскай эпохі. Так, Марыя Мартысевіч распавяла:

— Я постфактум зазірала ў рускія пераклады тых апавяданняў, якія рабіла. Яны вельмі і вельмі добрыя — для часу жалезнай заслоны, калі пра Англію ў СССР меркавалі толькі з газетных фельетонаў пад рубрыкамі «іх норавы» або «гэтыя дзіўныя англічане». Многія рэаліі не толькі Віктарыянскай Брытаніі, а ўвогуле Заходняга Свету былі б здзекам з савецкага чытача. Таму перакладчыкі, кіруючыся святым запаветам Норы Галь, выкарыстоўвалі апісальны спосаб перакладу. Напрыклад, *long French window* перакладзеная як «большая стеклянная дверь». Што абсалютна правільна. Але ў Беларусі XXI стагоддзя няма прычыны перакладаць гэтую дэталь неяк інакш, чым яна ёсць у арыгінале — «доўгае французскае акно».

Дарэчы, неабходнасць стварэння новых беларускіх перакладаў Шэрлака ўжо даказаў поспех папярэдняга выдання. Першая кніга Конан Дойла — «Прыгоды Шэрлака Холмса», што пабачыла свет па-беларуску ў 2014-м, ужо стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Новае ж выданне было здзейснена з дапамогай краўдфандынгавай платформы (чытачы самі ахвяравалі грошы на публікацыю кнігі), а колькасць «вольных» асобнікаў, прызначаных для продажу, вельмі абмежаваная.

## СУЧАСНАЕ

Пагадзіцеся, намнога прыемней знаёміцца з творамі сучасных замежных аўтараў менавіта на роднай мове, даведваць, пра што пішуць за мяжой, якія пытанні хвалююць не толькі пісьменнікаў, але і чытачоў. Так, перастварающа зазвычай кнігі, якія сталі бестселерамі, звярнулі на сябе ўвагу публікі, крытыкаў, грамадскасці. Летась па-беларуску выйшла некалькі значных сучасных замежных раманаў. У ліку найярчэйшых назаву дзве кнігі — гэта «Жыткаўскія багіні» Катаржыны Тучкавай (пераклад з чэшскай Святланы Рогач) і «Каала» Лукаса Бэрфуса (пераклад з нямецкай Ірыны Герасімовіч).

Досыць маладая пісьменніца Катаржына Тучкава, збіраючы матэрыял для свайго твора, некалькі гадоў працавала ў архівах, вывучала навуковыя работы па этнаграфіі, эзатэрыцы, народнай медыцыне. Яна абрала для рамана незвычайную тэму — жыццё і дзейнасць загадкавых лякарак — багінь, якія жылі толькі ў пэўнай мясцовасці Белых Карпат. Гэтых жанчын у розныя часы пераследавалі царкоўнікі, нацысты, прадстаўнікі спецслужбаў, у іх здольнасцях і ўменнях сумняваліся, але людзі верылі ў дапамогу і ехалі па параду і лекаванне з розных куткоў свету. «Жыткаўскія багіні» — раман, які стаў адным з самых прадаваных у Чэхіі за апошнія дзесяцігоддзі, — гэта кніга пра ўласную ідэнтычнасць, павагу да продкаў, традыцый, любоў да сям'і, сваіх каранёў. Тут ёсць і дэтэктыўны сюжэт, і захапляльныя гісторыі з мінуўшчыны, і расповед пра жынчыну, якая проста хацела знайсці сябе. А яшчэ гэта неверагодна цікавы раман.

Значнай падзеяй у кніжным жыцці нашай краіны летась стаў і выхад па-беларуску рамана




швейцарскага пісьменніка Лукаса Бэрфуса «Каала». Гэта кніга-роздум пра самагубства, адказнасць кожнага чалавека за сваё жыццё, ролю грамадства і акружэння ў ажыццяўленні няпростага выбару: жыць ці памерці? Перастварыла раман па-беларуску вядомая перакладчыца Ірына Герасімовіч. Дарэчы, амаль штогод у перакладзе Ірыны выходзяць значныя нямецкамоўныя празаічныя і паэтычныя кнігі.

Сама перакладчыца распавяла, што, выбіраючы кнігі для перакладу, кіруецца некалькімі крытэрамі:

— Па-першае, я выбіраю творы, якія мяне асабіста вельмі закранулі, бо пераклад, як вядома, не акупаецца выключна матэрыяльнай аддачай, таму павінна прысутнічаць ідэальная аддача — калі маеш магчымасць сказаць сваімі словамі, сваёй мовай тое, што глыбока кранула, ад гэтага ўспрымане тэксту робіцца яшчэ глыбейшым, тэкст яшчэ больш уздзейнічае. Па-другое, я стараюся выбіраць такія кнігі, якія прагучалі ў нямецкамоўнай прасторы. Я бачу ў перакладзе магчымасць выбудоўваць масты паміж нямецкамоўнай і беларускай прасторай. Па-трэцяе, для мяне вельмі важны кампанент чалавечых стасункаў, аўтэнтычныя чалавечыя сустрэчы, таму я выбіраю кнігі, якія могуць зрабіцца каталізатарамі для размоў пра самае галоўнае. Яшчэ я амаль заўжды на самым пачатку працы бачу некалькі чытачоў, гэта сябры, блізкія людзі, якім мне вельмі хочацца даць пачытаць адпаведную кнігу.

Дарэчы, для самой Ірыны вельмі важна, каб кнігі гучалі менавіта па-беларуску:

— Мне вельмі падабаецца беларуская мова як матэрыял (як у мастакоў ёсць матэрыял, з якім яны асабліва любяць працаваць, вось для мяне такі працоўны матэрыял — беларуская мова), мне падабаецца яе гнуткасць, падабаецца наяўнасць шматлікіх рэгістраў і варыянтаў, падабаецца яе адкрытасць, падабаецца знаходзіць новыя шляхі пісаць па-беларуску. Вось гэты працэс узаемнага ўплыву — мова ўплывае на мяне і я ўплываю на мову — вельмі захапляе. Яшчэ тут важная мая асабістая моўная біяграфія: першая мова для мяне — той дыялект, якім карыстаюцца на Пастаўшчыне. Пакуль жыла бабуля, было вельмі важна, каб яна моўна разумела мае пераклады. Яшчэ мая беларуская прастора — адназначна частка агульнаеўрапейскай, перакладаючы на беларускую мову, я нібы толькі падкрэсліваю тое, што і так натуральным чынам існуе.

Дарэчы, пераклад замежных твораў на беларускую мову мае і адваротны бок: не толькі мы даведваемся пра іншую краіну, культуру, але і за мяжой больш даведваюцца пра нас — праз уражанні самога пісьменніка, чый раман пераклаўся і ён прыехаў у Мінск і іншыя гарады краіны з яго прэзентацыяй. Ірына Герасімовіч распавяла, што кожны аўтар, з якім яна працавала, быў вельмі рады, яго твор будзе перакладзены на беларускую мову:

— Спярша, здаралася, радасць была з прысмакам цікавасці да экзатычнай краіны «Ого! На беларускую! І я паеду ў Беларусь — крута!» Вельмі цікава было назіраць за пачуццямі аўтараў пасля прэзентацый, яны былі ўражаныя тым, што рэакцыі беларусаў збольшага зусім не адрозніваліся ад рэакцый публікі, скажам, у Швейцарыі. Аўтары адкрывалі для сябе прастору, якая спачатку падавалася экзатычнай, а потым, як высвятлялася, не вельмі адрознівалася ад іх уласнай. Лукас Бэрфус, напрыклад, пасля візіту ў Беларусь у інтэрв'ю аднаму швейцарскаму тэлеканалу сказаў, што ў яго найвыразнейшае ўражанне, што ён быў у еўрапейскай краіне. Гэты ж пісьменнік сказаў неяк, што трэба проста знаходзіць сваіх людзей праз розныя межы. Мне хочацца верыць, што, перакладаючы, я спрычыняюся менавіта да гэтага працэсу.

## ДЗІЦЯЧАЕ

У ліку прыярытэтных моў для перакладу кніг для дзяцей, безумоўна, лідзіруе шведская. Гэта літаратура з глыбокімі традыцыямі і асаблівымі метадамі працы з дзіцячай аўдыторыяй. Таму і беларускія маленькія чытачы з радасцю знаёмяцца і доўга-доўга сябруюць з героямі кніг аўтараў са Швецыі. Так, летась выйшлі кнігі Юі Вісландэр з серыі пра Маму Му, Сары Лундберг з цыкла пра Віту Белую Крэску, а зусім нядаўна пабеларуску загаварылі знакамітыя Пэтсан і Фіндус — героі казак Свэна Нурдквіста. Але калі ў кнігах для дарослых мае значэнне толькі тэкст і яго змест, то ў выпадку з дзіцячымі выданнямі з'яўляецца новы кампанент — ілюстрацыя. Так, перакладчыца ўсіх названых вышэй твораў на беларускую мову Надзея Кандрусевіч распавяла:




— Я перакладаю дзіцячыя творы, і для мяне важнае спалучэнне малюнкаў і тэксту. Пераклала на беларускую мову кнігі з ілюстрацыямі Свэна Нурдквіста і Сары Лундберг, бо захапляюся імі як пісьменнікамі і як ілюстратарамі. Тэкст для мяне таксама важны, бо гісторыя мусіць быць цікавай, вясёлай, захапляльнай.

Дарэчы, перакладчыца падкрэслівае і асаблівую значнасць перастварэння замежных твораў для дзяцей менавіта па-беларуску:

— Я хачу, каб дзеткі мелі магчымасць на сваёй мове знаёміцца з іншымі дзіцячымі аўтарамі, ілюстратарамі, традыцыямі.

І сапраўды, 2015 год быў багаты на перастварэнні. Вырасла новае пакаленне перакладчыкаў, якія выдатна валодаюць замежнымі мовамі, не баяцца перасякаць межы, адкрываць іншыя краіны і культуры для беларускіх чытачоў. Таму, думаецца, можна чакаць новых яркіх перакладных кніг і ў 2016 годзе. Выпуск некаторых з іх ужо анансаваны. Так, па-беларуску з санскрыту (!) Ігар Кулікоў перастварыў першае кола старажытнаіндыйскай «Рыгведы». Будзем спадзявацца і на новыя сюрпрызы, новыя выдатныя пераклады.

Марына ВЕСЯЛУХА

### Адметна

Як гэта ні парадаксальна гучыць, але істотным і прынцыпова важным кірункам можна назваць працэс перакладу твораў айчынных рускамоўных пісьменнікаў з рускай — на беларускую.

Да прадстаўлення рускамоўных тэкстаў на беларускай мове імкнуцца і самі пісьменнікі, і выдаўцы. Пра значнасць гэтай працы сведчаць імёны перакладчыкаў. Так, творы першага Нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры Святланы Алексіевіч на беларускую мову перакладалі выдатны пісьменнік Мікола Гіль, вядомы літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч, над перастварэннем кніг Алеся Адамовіча калісьці шчыраваў даследчык літаратуры Міхась Тычына, ды нават папулярны аўтар Віктар Марціновіч пераклад свайго рамана «Сфагнум» даверыў знакамітаму паэту Віталю Рыжкову. І гэты спіс можна доўжыць…

Цікавай з'явай можна назваць і выданне новых кніг па-руску і па-беларуску… адначасова. Такі падыход можна патлумачыць, з аднаго боку, імкненнем аўтараў ахапіць як мага большую патэнцыяльную аўдыторыю, не засяроджвацца адно на беларускай ці рускамоўнай аўдыторыі.

Думаецца, можна весці гаворку пра новую хвалю цікавасці да беларускага, якая ўздымаецца самімі беларусамі. Цягам апошніх гадоў неверагодную папулярнасць атрымалі курсы беларускай мовы «Мова Нанова», некаторыя камерцыйныя прадпрыемствы перайшлі на беларускую і нават прапануюць скідкі тым, хто вітаецца на роднай мове.

# Святло сяброўскай энергіі

## Больш як 20 кніг на беларускай і рускай мовах выдаў у Мінску літоўскі пісьменнік Яронімас Лауцюс

Першы студзеньскі дзень 2016 года — дзень 70-гадовага юбілею члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Яронімаса Лауцюса, які жыве і працуе ў Вільнюсе. У пісьменніка, публіцыста даўняя повязь з Беларуссю. Першая кніга Я. Лауцюса пабачыла свет у 1982 годзе ў Вільнюсе — «Хто пабудаваў дом?». Наклад яе быў роўны 40 тысяч экзэмпляраў. Пасля да юных чытачоў Літвы прыйшлі: «Надзея ёсць» (1989), «Хто адчыніць дзверы? » (1990), «Ну, Уфанаўт, пачакай!» (1991)… Ужо з самага пачатку творчага шляху пісьменнік выбраў уласны кірунак у літаратурнай рабоце — быць папулярызатарам ведаў, уменняў, майстэрства, правіл бяспекі, паказваць прыярытэты, вартасці пазітыўнага ладу жыцця.

І з 1994 года Яронімас Лауцюс пачаў актыўна супрацоўнічаць з мінскімі выдавецтвамі. Першая кніга ў Мінску — «Алімпіяда звяркоў». Наклад — 10 тысяч экзэмпляраў.

У 2009 годзе літоўскага літаратара прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У 2013-м Я. Лауцюса адзначылі медалём СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру». Пра яго кнігі, выдадзеныя ў Мінску (а сёння іх ужо 22!), пішуць «Настаўніцкая газета», «Літаратура і мастацтва», «Вечерний Минск». Яронімас Лауцюс — часты госць у Беларусі. Штогод удзельнічае ў святкаванні Дня беларускага пісьменства, у традыцыйных «круглых сталах» замежных аўтараў, якія рэгулярна ладзяцца ў верасні Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюзам пісьменнікаў і Выдавецкім домам «Звязда», пачынаючы з 2007 года. Да ўдзельнікаў гэтага «круглага стала» і звярнуўся я з просьбай сказаць некалькі слоў пра Яронімаса Лауцюса.

**Святлана Ананьева, літаратуразнаўца (Казахстан):**

— Мяне ўражвае творчы вопыт Яронімаса Лауцюса. Літоўскім дзецям пашчасціла. У іх ёсць свой мудры і добры настаўнік, дзеяздольны педагог.

**Слабадан Вуканавіч, паэт, драматург, перакладчык (Чарнагорыя):**

— У нашай краіне выйшла адна з кніг Яронімаса Лауцюса — «Твой шлях удачы». Ведаю, з якім задавальненнем яе рыхтаваў у друк наш вядомы дзіцячы пісьменнік Душан Джурушыч. І чытач у гэтай кнігі ёсць.

**Ато Хамдам, празаік, перакладчык (Таджыкістан):**

— Яронімаса Лауцюса як пісьменніка ведаюць і юныя чытачы Таджыкістана. Мне асабіста імпануе яго жаданне спрыяць, пашыраць прастору асветніцтва, адукацыі самых юных чытачоў. Ад кніг Я. Лауцюса ідзе энергетыка дабрыні, лагоды, энергетыка пазітыўнага стаўлення да жыцця. А гэта дарагога каштуе ў наш час, калі на паверхні аказваюцца сумніўныя каштоўнасці.



Фота Кастуся Дробава.

…У апошнія гады літоўскі літаратар — часты госць у медыцынскіх установах, псіханеўралагічных лякарнях, шпіталях. Пісьменнік сустракаецца з дактарамі і хворымі, ён імкнецца словам, мастацкімі сродкамі лячыць людзей, якія патрапілі ў няпростыя жыццёвыя сітуацыі, прайшлі шляхам драматычных, часам зусім трагедыйных, калізій. Пра гэта — у кнігах Я. Лауцюса «Дэпрэсія — мая госця», «Развітваюся з дэпрэсіяй», «Пішу, таму што баліць», «Каму належыць свет», «Нечаканае падарожжа», «Не сыходзь з майго жыцця…» Гэтыя і шэраг іншых кніг пісьменніка-псіхатэрапеўта выйшлі ў мінскім выдавецтве «Адукацыя і выхаванне».

…— Свет зараз надзвычай складаны. Чалавечыя адносіны набываюць самы розны фармат зносін. І чым раней дзеці задумваюцца пра складанае, няпростае жыццё, тым болей у хлопчыкаў і дзяўчынак шанцаў вырасці ў яркіх, цікавых асоб. Для гэтага я і пішу свае кнігі, — гаворыць Яронімас Лауцюс, добры сябар беларускай літаратуры, беларускага чытача.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Пасеяныя літары

*Літаркі пасею,*
*Казачка складзецца,*
*Дам Аляксею —*
*Хай пасмяецца!*

Так Віктар Гардзей падпісаў сваю новую кніжку майму сыну. Прычым нават не кніжку, а — кніжачку. Складаецца яна… з аднаго верша ў 30 з нечым радкоў. Затое запоўнена, па-першае, калізіямі, па-другое, ілюстрацыямі да іх (мастак — Юлія Пякіна). Называецца кніжачка «Лясная трывога» і працягвае яна заснаваную ў 2013 годзе выдавецтвам «Мастацкая літаратура» серыю для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў «Нашым дзеткам».

Праўда, верш Віктара Гардзея — не зусім верш, а казка. Яе кампазіцыя адпаведная. Захапляльны, з інтрыгай зачын:

*Між звяроў пайшла трывога,*
*Бо сарока зноў трашчыць:*
*— Бачу, бачу насарога,*
*Востры рог яго тырчыць.*

І вось лясныя жыхары пранікаюцца «дзікім жахам»: «Страх ваўкоў ажно калоціць».





Што казаць пра іншых! Але, як аказалася, гэта класічны прыклад ператварэння мухі ў слана.

*Толькі зай пытае строга:*
*— Што яшчэ за насарог!*
*Ці бывае ў насарога*
*Два крылы, шасцёра ног?*

Таму страх развейваецца. Развязка прадказальная (для дарослых) — станоўчая і смешная:

*З чорнай спінкай,*
*З вострым рогам*
*Міма поўз жук-насарог…*

Як бачна, словы эпіграфа можна скіроўваць у адрас многіх дзяцей — хай пасмяюцца!

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

**Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5-ці гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую рэгістрацыю) з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра струнных смычковых інструментаў | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра спецыяльнага фартэпіяна | — дацэнт (1,0 шт. адз.)<br>— старшы выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 3 | кафедра фартэпіяна | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 4 | кафедра аркестравага дырыжыравання | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 5 | кафедра тэорыі музыкі | — загадчык кафедры |

# Свята з Мамай Му

**Ці вераць дзеці ў казкі? На гэтае пытанне станоўча адказалі юныя наведвальнікі сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 2 — другакласнікі СШ № 73, якія завіталі сюды на спектакль «Мама Му, Крумкач і Каляды» ў пастаноўцы лялечнага тэатра «Лямцавая батлейка».**

Перад спектаклем акцёры «Лямцавай батлейкі» Вераніка Фаміна і Бэла Кавалькова разам з супрацоўнікамі бібліятэкі правялі для гледачоў займальную моўную хвілінку. Школьнікі даведаліся пра значэнне беларускіх слоў *гарышча, трус, вяршкі, ровар,* з якімі сустрэліся падчас дзеі. А яшчэ Вераніка і Бэла распавялі, што тэатр «Лямцавая батлейка» пачаўся з кнігі, дакладней, з цэлай серыі дзіцячых кніг шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр пра кароўку Маму Му.

Ну як жа можа быць нецікава назіраць за галоўнай гераіняй спектакля, якая гуляе то ў змяю, то ў трусіка? У Новы год жа можна ператварыцца ў каго заўгодна, ды яшчэ і падарункі атрымаць! «Ушчыкніце мяне за пёркі!» — паўтарае ўражаны Крумкач, які іранічна прапаноўвае Маме Му пагуляць яшчэ і ў слана. І кароўка… лезе на гарышча, уяўляючы яго гарою Кіліманджара! І надта ўжо смешна выглядае Крумкач у вобразе дэтэктыва, з сонечнымі акулярамі на дзюбе…

Але казка на гэтым не заканчваецца: Крумкач і Мама Му едуць на ровары ў зімовы лес, дзе абменьваюцца падарункамі. Да зімовых свят нават гаспадар паставіў святочную ялінку ў кароўніку! Сапраўднае чараўніцтва, ці не так?

**Яна ЯВІЧ**

# Далёкай дарогі пачатак

## Мікалай Васільевіч Магільны пайшоў у вечнасць

**Старэйшае пакаленне творчых людзей добра яго ведае. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер баявых узнагарод, партызан і франтавік, ён меў славу рэдкую — калекцыянера, збіральніка прадметаў беларускага побыту.**

Кватэра ў Мінску, дом у адным з паселішчаў Пухавіцкага раёна — усё было запоўнена цікавымі вырабамі з дрэва, гліны, саломы. Прасы і разнастайныя металічныя рэчы, якія служылі чалавеку ў розных стагоддзях, а яшчэ медальёны, пацеркі, калекцыя гузікаў даўніны — зборы яго былі наўздзіў красамоўнымі і прыцягальнымі. Пра Магільнага шмат пісалі ў друку. Здаралася, пісалі з ацэнкамі ваяўнічымі, разглядаючы ў яго памкненнях нешта ненармальнае. Але ж такім быў час з усімі яго выдаткамі... І само жаданне збіраць сведчанні пра мінулыя стагоддзі выклікала негатыўныя ацэнкі.



Фота Кастуся Дробава.

Нараджэннем з 1920 года, ён перажыў і болей складаныя выпрабаванні, і драматычныя калізіі. Па маці — з дваранскага роду. Па бацьку — сын «ворага народа». Мо таму «не рэалізаваным» засталося прадстаўленне на прысваенне Мікалаю Васільевічу Магільнаму звання Героя Савецкага Саюза?.. Ды і без гэтага атрыманыя баявыя ўзнагароды — чатыры ордэны, шматлікія медалі, сярод якіх і медаль «За адвагу», — сведчылі і сведчаць пра многае.

Журналіст, сцэнарыст тэлевізійных перадач і дакументальнага кіно, выкладчык інстытута фізкультуры, загадчык інстытуцкай кафедры... Неардынарны чалавек у сваіх памкненнях зрабіць жыццё цікавым і насычаным. Пасля яго засталася і кніга-сведчанне — «Тугай». Пра вайну, пра многія выпрабаванні. Ён пайшоў з жыцця 30 снежня 2015 года, але светлая памяць пра Магільнага, несумненна, застанецца ў сэрцах, свядомасці многіх людзей.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь

## Аб работах, дапушчаных да ўдзелу ў конкурсе на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2016 года

**У адпаведнасці з пунктам 9 Палажэння аб Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 мая 2006 г. № 300 «Аб Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь», з мэтай шырокага азнаямлення грамадскасці, прадстаўляецца інфармацыя аб работах і аўтарскіх калектывах, якія дапушчаны да ўдзелу ў конкурсе на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2016 года.**

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі 2016 года дапушчаны наступныя работы і аўтарскія калектывы:

Драган Вячаслаў Ігнацьевіч, Пойта Пётр Сцяпанавіч, Тур Віктар Уладзіміравіч, Шалабыта Мікалай Мікалаевіч, Мухін Анатолій Віктаравіч. Работа «Распрацоўка, даследаванне і шырокае ўкараненне ў практыку будаўніцтва эфектыўнай металічнай структурнай канструкцыі сістэмы «БрДТУ», якая прымяняецца пры ўзвядзенні вялікапралётных, у тым ліку ўнікальных, пакрыццяў збудаванняў». Вылучана ўстановай адукацыі «Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт». Прадстаўлена Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Руммо Алег Алегавіч, Астроўскі Юрый Пятровіч, Дзядзько Аляксандр Міхайлавіч, Калачык Алег Валянцінавіч, Шчэрба Аляксей Яўгеньевіч, Валенцюкевіч Андрэй Валянцінавіч. Работа «Распрацоўка і ўкараненне тэхналогій трансплантацыі органаў у дзяцей і дарослых». Вылучана ўстановай аховы здароўя «9-я гарадская клінічная бальніца». Прадстаўлена Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Грабчыкаў Сяргей Сцяпанавіч, Зайцаў Валерый Аляксандравіч, Кавальчук Генадзій Піліпавіч, Саладуха Віталій Аляксандравіч, Чыжык Сяргей Антонавіч, Шведаў Сяргей Васільевіч. Работа «Распрацоўка і арганізацыя прамысловай вытворчасці экспартна-арыентаваных мікраэлектронных вырабаў двайнога і спецыяльнага прызначэння на аснове стварэння сучасных метадаў праектавання, паўправадніковых тэхналогій і высокадакладнага аналітычнага і зборачнага абсталявання». Вылучана ААТ «ІНТЭГРАЛ» — кіруючая кампанія холдынгу «ІНТЭГРАЛ». Прадстаўлена Міністэрствам прамысловасці Рэспублікі Беларусь; Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.

Ляўко Вольга Мікалаеўна, Дук Дзяніс Уладзіміравіч. Работа «Вытокі беларускай дзяржаўнасці: Полацкая і Віцебская землі ў IX—XVIII стагоддзях». Вылучаючана дзяржаўнай навуковай установай «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі». Прадстаўлена Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.

Пархомчык Пётр Аляксандравіч, Сцяпук Алег Георгіевіч, Трухноў Леанід Іванавіч, Сямёнаў Леанід Віктаравіч, Кашэўскі Яўгеній Пятровіч, Наскавец Аляксандр Міхайлавіч. Работа «Распрацоўка звышцяжкага кар'ернага самазвала БЕЛАЗ-75710 рэкорднай грузапад'ымальнасцю 450 тон». Вылучана ААТ «БЕЛАЗ» — кіруючая кампанія холдынгу «БЕЛАЗ-ХОЛДЫНГ». Прадстаўлена Міністэрствам прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

Сцяпук Леанід Якаўлевіч, Марыніч Леанід Адамавіч, Лапа Віталій Вітальевіч, Перавознікаў Васілій Мікалаевіч. Работа «Стварэнне і ўкараненне ў сельскагаспадарчую вытворчасць комплексаў машын, якія вызначаюць рэзультатыўнасць земляробства і жывёлагадоўлі Рэспублікі Беларусь». Вылучана РУП «НПЦ НАН Беларусі па механізацыі сельскай гаспадаркі». Прадстаўлена Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.



*Расціслаў Янкоўскі (справа) у спектаклі «Пане Каханку».*

Рупасава Жанна Аляксандраўна, Рашэтнікаў Уладзімір Мікалаевіч, Ціток Уладзімір Уладзіміравіч, Паўлоўскі Мікалай Баляслававіч, Якаўлеў Аляксандр Паўлавіч, Лягускі Васілій Рыгоравіч. Цыкл работ «Інтрадукцыя і ўвядзенне ў прамысловую культуру на меліяраваных землях і выбыўшых з прамысловай эксплуатацыі тарфяных месцанараджэннях Беларусі паўночнаамерыканскіх відаў верасовых (журавіны буйнаплодныя, бугякі высакарослыя) і сартавых брусніц». Вылучана ДНУ «Цэнтральны батанічны сад НАН Беларусі». Прадстаўлена Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.

Прывалаў Фёдар Іванавіч, Грыб Станіслаў Іванавіч, Казлоўская Зоя Аркадзьеўна, Кільчэўскі Аляксандр Уладзіміравіч, Кавалевіч Аляксандр Іванавіч «Стварэнне банка генетычных рэсурсаў сельскагаспадарчых і лясных раслін для забеспячэння харчовай і біялагічнай бяспекі Рэспублікі Беларусь». Вылучана РУП «Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па земляробстве». Прадстаўлена Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.

Герман Андрэй Аляксандравіч, Кандратчык Валерый Аркадзьевіч, Маскаленка Павел Віктаравіч, Дзмітраковіч Андрэй Аляксандравіч, Вашкевіч Грэнальд Міхайлавіч, Косінаў Яўгеній Сямёнавіч. Работа «Распрацоўка і асваенне вытворчасці сістэмы машын лесапрамысловага комплексу АМКАДОР». Вылучана ААТ «АМКАДОР» — кіруючая кампанія холдынгу». Прадстаўлена Міністэрствам прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры 2016 года дапушчаны наступныя аўтары і творчыя калектывы:

Волкава Аксана Уладзіміраўна, Масквіна Анастасія Ігараўна, Трыфанаў Станіслаў Уладзіміравіч, Франкоўскі Сяргей Ула-дзіміравіч, Ламановіч Ніна Іосіфаўна, Касцючэнка Аляксандр Аляксандравіч. За значныя творчыя дасягненні ў развіцці музычнага мастацтва, прапаганду духоўных каштоўнасцей і значны асабісты ўклад у пастаноўку опернага спектакля на музыку Дз. Смольскага «Сівая легенда» па творы У. Караткевіча. Вылучаны дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установай «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Крапак Барыс Аляксеевіч. За серыю кніг і альбомаў пра жыццё і творчасць дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі. Вылучаны ГА «Беларускі саюз мастакоў». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч. За кнігі для дзяцей «У родным краі», «Гульняслоў», «Серабрыстыя чайкі». Вылучаны ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Алай Анатолій Іванавіч. За цыкл дакументальных фільмаў пра Вялікую Айчынную вайну «Яго закапалі ў шар зямны», «Чорная дарога», «Адрынуты», «Салдаты Італіі», «За два крокі ад Гільяціны», «Чырвоны д'ябал», «Пётр Конюх», «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі», «Бумеранг». Вылучаны ГА «Беларускі саюз кінематаграфістаў». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Кандрусевіч Уладзімір Пятровіч. За значныя дасягненні ў галіне тэатральнага і музычнага мастацтва, стварэнне музыкі да балета «Мефісто», мюзіклаў «Шклянка вады», «Джулія», «Софія Гальшанская», «Байкер». Вылучаны ўстановай «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь "Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр"». Прадстаўлена Міністэрствам культуры і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Янкоўскі Расціслаў Іванавіч. За выдатнае ўвасабленне вобразаў класічнай замежнай і сучаснай айчыннай драматургіі ў спектаклях «Сунічная паляна» І. Бергмана, «Праўда — добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага, «Пане Каханку» А. Курэйчыка, «Гора ад розуму» А. Грыбаедава. Вылучаны ДУ «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Казінец Міхаіл Антонавіч, Крамко Аляксандр Яўгеньевіч, Сімаковіч Ларыса Іванаўна. За стварэнне канцэртаў-спектакляў тэтралогіі «Святое, незабыўнае…» (музычна-тэатралізаваныя пастаноўкі «Гусляр», «Апокрыф», «Песня пра долю», «Люцыян Таполя»). Вылучаны ўстановай «Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармонія». Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Буралкін Генадзій Васільевіч, Занковіч Валянцін Паўлавіч, Федчанка Сталін Іванавіч. За стварэнне мемарыяльнай і скульптурных груп пагранічнай тэматыкі ў перыяд 2004 — 2011 гг. Вылучаны Дзяржаўным пагранічным камітэтам Рэспублікі Беларусь. Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, падкамітэт па Дзяржаўных прэміях у галіне навукі і тэхнікі, падкамітэт па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры звяртаецца да кіраўнікоў арганізацый, устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, прадпрыемстваў, органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх аб'яднанняў з просьбай прыняць удзел у абмеркаванні пералічаных работ і аўтарскіх калектываў.

Водгукі спецыялістаў, матэрыялы грамадскага абмеркавання, прапановы і заўвагі па работах, аўтарскіх калектывах і аўтарах прымаюцца да 15 верасня 2016 года на адрас: 220072, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 66, каб. 317, 413, сакратарыят Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь.

Тэл. (017) 284-11-63;
тэл./факс (017) 284-24-56,
(017) 284-23-81.

# Палёты наяве, ці Рэха сноў

## Беларуская мастачка — лаўрэат прэстыжнай прэміі



**Французская вытанчанасць у традыцыях Мулен Руж База Лурмана ці спадарыні Бавары Густава Флабэра, нявінная казачнасць у малюнках чароўных конікаў альбо філасофія нябесных цел — усё гэта гарадзенская мастачка Валянціна Шоба, яе любоў да сімвалізму і зменлівы настрой. Мабыць, яна магла б працаваць з Анры Тулуз-Латрэкам — але спатрэбілася б машына часу. Сёння яна таксама дамаглася поспеху. Упершыню на міжнароднай выстаўцы сучаснага мастацтва «*Art Capital*» у парыжскім «Гран Пале» Валянціна Шоба разам са скульптарам Сяргеем Парцянковым удастоіліся званняў лаўрэатаў прэстыжнай прэміі Тэйлара — для беларусаў гэта дэбют. Уручэнне адбудзецца вясной. Пакуль мастачка прадставіла вернісаж сваіх работ у Мінску, распавяла пра тое, як стварыць свята ў любых абставінах, паразважала пра вайну і мір, падзялілася сакральнымі таямніцамі сваёй творчасці.**

### КАХАННЕ ПАДЧАС ЦЕМРЫ

Здаецца, яе натхняе ўсё: трывожныя сны, людзі, якія бягуць скрозь час, родныя пейзажы, меладычны звон ветру за вокнамі, ранішняя кава, сонца, што сплывае за гарызонт, кветкі на шаўковым халаце, пераменлівы дух надвор'я, заказаныя, застылыя ў гарачым пацалунку (амаль як у Густава Клімта). Яна ведае, пра што зямля шуміць небу, як можна растварыцца ў халодным ручаі, а потым акрыяць — у чырвоным зарыве гарачага лета. Сама мастачка не любіць гаварыць пра сябе. Кароткая стрыжка, круглявыя і мяккія рысы твару, але разам з тым — упартасць і смеласць, якія нагадваюць Надзею Хадасевіч-Лежэ, беларускую мастачку, якая адправілася пакараць Парыж, бо жыць не магла без творчасці... Ваяўнічая карціна Валянціны таксама заваявала сэрцы французаў.

«Работа "Улада цемры", дзякуючы якой я атрымала прэмію Тэйлара, — гэта разважанне пра тое, пад якім лозунгам лёгка пачаць бітву, апраўданне пра вайну і мір. Крычаць пра тое, што мы, маўляў, ваюем за свабоду і веру, — прасцей за ўсё. Людзям чамусьці вечна гэтага мала. Але вось што рабіць з любоўю? Ці зможам мы змагацца за яе? Бо галоўнае ў жыцці — умець кахаць. Як бы ні было цяжка. Рана ці позна зоркі над тым, хто любіць, сыдуцца і шчасце знойдзе яго».

### АДНОЙЧЫ Ў ПАРЫЖЫ

Адзінаццаць беларускіх мастакоў прадставілі свае працы ў выставачным комплексе «Гран Пале» ў канцы лістапада мінулага года — першы раз за 60 гадоў гісторыі правядзення «*Art Capital*» у Парыжы. Толькі ўдзел — гэта ўжо знак прэстыжу і павагі да нашых майстроў. Прэмія Тэйлара ўручаецца раз на год у жывапісе і скульптуры і з'яўляецца вынікам рашэння камісіі, якая выбіраецца членамі Асацыяцыі імя Барона Тэйлара. Валянціну Шоба і Сяргея Парцянкова заўважылі з больш як дзвюх тысяч аўтараў, а Беларусь — з ліку 9 нацыянальных павільёнаў!

Мастачка ўпэўненая, што без віртуозных арганізатарскіх здольнасцей куратара беларускага павільёна, прафесара Віктара Альшэўскага, які аб'яднаў нашых скульптараў і мастакоў, нічога б не атрымалася. «Хто хоча аспрэчыць факт, які адбыўся, хай ужо па прыкладзенай ім дарозе здзейсніць той жа подзвіг! Гэта была яго ідэя, ён плоць і паветра дадзенага праекта. Аказваецца, у нашай правінцыі ёсць і Сяргей Грыневіч, і Юрый Якавенка, і Уладзімір Панцялееў... Пра нас пачулі нарэшце!» — усклікае Валянціна Шоба.

«Перамога на парыжскай выстаўцы — падзея глабальная не толькі для мяне, але і для ўсёй нашай краіны. Я прымала незалежны ўдзел у такім буйным конкурсе ўпершыню. Што такое "Гран Пале"? Амаль 4 тысячы квадратных метраў і вар'яцкая энергетыка! Не шкадую, што прыехала за свой кошт, бо гэта — частка майго развіцця», — кажа Валянціна Шоба.

### САКРАЛЬНАЕ ВА ЎЗОРАХ

Першай экспазіцыяй мастачкі пасля прыезду з Парыжа стала каляндная выстаўка карцін у Доме-музеі Ваньковічаў у Мінску. На першы погляд здаецца, што аб'яднаць работы немагчыма. Але Валянціна Шоба думае крыху інакш.

«Калі я ўбачыла прастору, на якой мне трэба было паказаць свае творы, пачуцці прыйшлі супярэчлівыя. Як размясціць усё лагічна, узгадніць кампазіцыйна, калі замест стандартных галерэйных залаў — неверагодна вузенькі калідор і маленькая гасцёўня з раялем? Не паверыце, але самі карціны падказалі мне ідэю, якая аб'яднала іх у адзінае гарманічнае цэлае!» — прызнаецца мастачка.

Усе карціны для яе і праўда жывыя: ці гэта жаночыя партрэты ў стылі Ганны Ахматавай, Вірджыніі Вульф ці Нінон дэ Ланкло, казачныя конікі або велізарныя, шматгранныя, зіхатлівыя нябесныя свяцілы. Чым жа быў абумоўлены выбар менавіта гэтых вобразаў? Што яны сімвалізуюць? Бо творчасць Валянціны Шоба нельга назваць чыстым рэалізмам. Гэта, хутчэй, водгукі сноў ці мары ў іх самым фантастычным выглядзе.



*«Чароўныя конікі» — адзін з калядных матываў.*

«Выстаўка ў Мінску задумвалася як каляндная магія, пабудаваная на сімвалізме беларускіх вышывак, карункаў і іншых узораў, якімі нашы продкі ўпрыгожвалі свой побыт. Упэўнена, што сакральная сімволіка — у аснове жыцця любой нацыі», — тлумачыць Валянціна Шоба.

Варта ўвайсці ў калідор — і цябе сустракае пачуццёвая паненка, што прымярае касцюм, а за акном таямнічы вершнік шукае сваю пуцяводную зорку. З ног збіваюць птушкі, якія кружаць вакол сонца. Яно, дарэчы, суседнічае з месяцам і зоркамі — як увасabленне неабсяжнага сусвету. Усё вытрымана ў асноўным у залаціста-сініх танах, з мноствам агеньчыкаў і казачных персанажаў, мудрагелістых узораў і... надпісаў каліграфічным почыркам. Валянціна Шоба праз творчасць быццам дзеліцца з гледачамі сваімі патаемнымі думкамі. Сама па сабе яна даволі скрытная і не любіць залішняй увагі. Раніца, вечар, дзень, ноч — усё захавана ў адзіным рытме-танцы. «Работы на выстаўцы аб'ядноўвае жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці і неверагоднасці», — запэўнівае мастачка.

### НАВАГОДНЯЯ АРЫЯДНА

Сімвалізм не пакідае Валянціну не толькі ў будні, але і ў святочныя дні. Аднойчы звычайная нітка (амаль як тая, што была ў Арыядны і вывела з лабірынта Тэзея, што перамог Мінатаўра) стала адным з самых незвычайных упрыгожванняў сямейнай навагодняй ёлкі — як увасабленне сувязі мінулага і будучыні.

«Калі мая дачка Аня была маленькай, мы кожны год прыдумлялі арыгінальную канцэпцыю вобраза зялёнай прыгажуні, бо менавіта ў ёй галоўная магія Новага года. Грошай для новых цацак не было, але часам хацелася чагосьці асаблівага, а часам проста дзеля забавы. Адна такая ідэя мне асабліва запомнілася. А «пацягнулі» мы яе з фільма «Мышынае паляванне», які апавядае пра двух братоў Шмунтцаў, уладальнікаў вяровачнай фабрыкі. На шпацырах я і Аня назбіралі розныя кавалачкі нітак, што трапляліся літаральна пад нагамі, звязалі іх паміж сабой, зматалі ў рознакаляровы клубок, чым і ўпрыгожылі ёлку пад Новы год і Каляды. Вось так з безнадзейнага фінансавага становішча атрымліваецца свята, галоўнае — праявіць фантазію!» — распавядае Валянціна Шоба.

Цяпер у яе доме ўсе выраслі, за ялінкай так не сочаць, але калі ўжо ўпрыгожваюць, то да таго часу, пакуль снег не сыдзе назусім. Навагодняя «паненка» можа прастаяць і да вясны — у нашай краіне надвор'е не адрозніваецца стабільнасцю. Жывое дрэва, якое пахне марозам і лесам, Валянціна памятае з дзяцінства. Цяпер у прыярытэце — толькі штучныя іголкі, таму што секчы лес — злачынства.

Валянціну Шоба называюць вельмі працавітай і ўседлівай — у майстэрні яна, здаецца, можа жыць увесь час, працаваць гадзінамі ў адзіноце. Нават дома падчас навагодніх святаў пабываць не заўсёды атрымліваецца. Можа з'ехаць, напрыклад, у Польшчу, паглядзець спектакль. Наступны, 2017-ы, мастачка паабяцала сустрэць з экзотыкай. А пакуль... з палатном і фарбамі, таму што ім — дарога ў будучыню! Таксама, дарэчы, з-за веры ў сімвалы. «Калі я ў ад'ездзе, то другога студзеня, па традыцыі, абавязкова вяртаюся. Збіраемся з сябрамі ў Вежы, дзе ў нашай сям'і творчыя майстэрні», — дадае Валянціна Шоба.

### БЯЗМЕЖЖА ФАНТАЗІІ

Яе ўласныя работы здзіўляюць спалучэннем кантрастаў. З аднаго боку — добрае, наіўнае, чароўнае зачараванне, а з другога — цёмныя лабірынты душы. Сапраўдны жывапіс настрою. Сувязь з тагасветным асяроддзем. На многіх карцінах намаляваны коні. Здаецца, яны прыйшлі са старых мудрых казак. Ахоўваюць дамы, пакуль мы спім, імчаць на сваіх моцных спінах ноч, што змяняе дзень, расцякаюцца ад сонечных пацалункаў, нібы гарачая лава, засланяюць неба... Коні Валянціны Шоба — як асобная з'ява прыроды, а не проста жывёлы. Могуць увасабляць кветкавы чай ці моцную каву, дажджлівае надвор'е альбо прыход вясны. Логіка? Навошта яна тут патрэбна?

На адным з пленэраў Валянціна Шоба захапілася вывай жаночых аголеных фігур. Крытыкі і сябры ўспрынялі гэты ход па-рознаму. Але як бы ні падзяляліся думкі, відавочна: жаночая сутнасць у яе творчасці ледзь не на першым месцы. Цудоўна выглядаюць у Валянціны партрэты. Паненкі атрымліваюцца вытанчанымі і адначасова фатальнымі — як у фільмах 20-х гадоў. Адкрытыя плечы, тонкія пальцы, вострыя скулы, пунсовая памада... Паэтычнымі подпісамі кранае мастачка: «Навошта мне парасон, калі ты схаваў мяне пад сваім небам?» — усклікае адна з яе далікатных гераінь. А іншая, какетліва павярнуўшыся, двухсэнсоўна шэпча: «Не іранізуй, часам самае прымітыўнае пачуццё глыбей за веды». Каб зразумець Валянціну, трэба сапраўды адчуваць, прычым, не слізгаючы па паверхні, а паглыбляючыся ў сутнасць.

### НЕ БУДЗЬ ТАКІМ ЯК УСЕ

У Парыжы здолелі адчуць беларускую мастачку. Але чым можа пакараць беларускае мастацтва ўвогуле? У Валянціны на гэты конт адказ кароткі: мастацтва для яе — непадзельная сусветная з'ява. «Галоўнае для ўсіх мастакоў, на мой погляд, — не баяцца бачыць і паказваць свет па-свойму, нягледзячы на зайздрасць і крытыку, абурэнне і нават забыццё. Прыйдзе час — і сапраўдны талент ацэняць. Так што людзям творчых прафесій ні ў якім разе нельга баяцца быць самімі сабой... Арыгінальнасць — гэта шлях у будучыню», — лічыць Валянціна Шоба. Умець маляваць і быць мастаком, на яе погляд, гэта зусім розныя паняцці, даступныя далёка не кожнаму... А ў Беларусі — вялікі патэнцыял. Быў, ёсць і будзе.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Тры любові Паўла Харланчука

**Як быць сапраўдным чалавекам і паважаць свет вакол сябе? Як быць таленавітым акцёрам і не хлусіць гледачам? Як стаць добрым бацькам, клапатлівым мужам і імкнуцца толькі наперад? Пра сваю жыццёвую любоў да Бога, прафесіі і сям'і, пра неверагодную працу над сабой і адказнасць за блізкіх расказаў акцёр тэатра і кіно, рэжысёр Павел Харланчук.**



*Павел Харланчук.*

## СЛОВА АД БОГА

**— Павел, вы веруючы чалавек, але ж, наколькі я ведаю, так было не заўсёды. Калі вы свядома прыйшлі да Бога, калі палюбілі яго і зразумелі, што ён жыве разам з вамі?**

— Напэўна, тады, калі ў маім жыцці былі пэўныя складанасці ў сям'і. Ведаеце, такія рэчы я не занатоўваю, але ж, калі ўзгадваць, мы сутыкнуліся ў сям'і з перыядам, калі ўсё пайшло не так, і свядома, з маёй жонкай Ганкай, пачалі шукаць выйсце. Хадзілі па розных цэрквах і аднойчы патрапілі на чарговую, дзе я ўпершыню пачуў слова, якое было патрэбна мне. За гэтым словам — словам ад Бога я і пацягнуўся, бо дагэтуль не ведаў, што яно існуе. Для мяне раней служба ў царкве была абрадам, магчыма, незразумелым. Хоць я таксама мог прыйсці ў царкву, прастаяць службу тры, чатыры гадзіны, але каб я гэта свядома разумеў — такога сказаць не магу. Я рады, што пачуў слова, звернутае і напісанае Богам для чалавека.



*Сцэна са спектакля «Паўлінка».*

**— Можна казаць, што рэлігія дапамагае вам любіць жыццё?**

— Не рэлігія, а Бог. Не зразумела, ці можна казаць, што дапамагае, але ж тое, што падтрымлівае, — дакладна можна.

**— Звычайна ў нашым грамадстве кажуць, што Бог любіць усіх. А вы можаце казаць пра сваю сям'ю, што Бог любіць вас?**

— Можна далёка не хадзіць і ўспомніць, што ў 2015 годзе я два разы трапляў у аварыю. Таму магу сцвярджаць: Бог любіць мяне, бо я выйшаў адтуль жывым, без усялякіх наступстваў. Нават калі аварыі і былі папярэджаннямі, то вынік — маё знаходжанне разам са сваёй сям'ёй сёння — ёсць паказчык яго любові да мяне.

## ТЭАТР МАІХ УСПАМІНАЎ

**— Вы верыце ў Бога і жывяце па яго законах, але нельга гаварыць, што ваша прафесія прымальная для вернікаў…**

— Няма людзей без граху на гэтай зямлі. Калі я веру ў Госпада — гэта не значыць, што я самы чысты чалавек на свеце, бо вера — свята, да якога я павінен ісці і імкнуцца. А да акцёрскай прафесіі ёсць стаўленне ў нашым грамадстве, магчыма, яшчэ з сярэднявечных часоў, што гэта забароненая прафесія для царквы. У гэтым момансе, канечне, ёсць свае складанасці. У кожнай сваёй ролі я спрабую пабачыць нешта добрае, шчырае, нават калі гэта адмоўны персанаж. У мяне няма такога чыстаплюйства — паказваць толькі станоўчыя вобразы. Самае галоўнае, што ў выніку кажа гэтая гісторыя. Шмат людзей гаварылі мне: навошта іграць чорта, калі верыш у Госпада. Але ж я выконваю ролю чорта, які ў выніку атрымлівае па заслугах. Герой не бярэ верх у прадстаўленай гісторыі, ён абавязкова будзе пакараны. У гэтым спектаклі дабро перамагае зло, што для мяне галоўны вынік. Ведаеце, калі гаварыць, што не трэба іграць Ірада альбо Іуду, то трэба падумаць, хто ўсё ж такі будзе выконваць гэтыя адмоўныя ролі. Для мяне важна, каб у спектаклі ідэя рэжысёра, калі я акцёр, была станоўчай. Па гэтым пытанні складанасці ёсць насамрэч і ў кіно, і ў тэатры. Я не магу казаць, што я самы бязгрэшны чалавек, але ж Госпад і ў прафесіі мне дапамагае страсануцца і некалі задумацца.

**— У многіх выданнях пішуць і на тэлебачанні гавораць, што Павел Харланчук — трэнд сучаснага беларускага тэатра. Вы адчуваеце сябе трэндам?**

— Я, можа, трэнд пэўнай часткі тэатра, бо тэатр жа ёсць розны. Ёсць, напрыклад, пластычны тэатр, а я не магу быць трэндам пластычнага тэатра. Мне ўвогуле складана казаць, што я трэнд, бо гэта вялікая адказнасць. Я проста чалавек, які пэўны час працуе ў тэатры, мне ўжо трыццаць сем гадоў, з якіх я з сямнаццаці гадоў працую ў тэатры. Магчыма, проста ўжо прымільгаўся, і ўсе ведаюць, што ёсць такі Харланчук, які працуе ў рэпертуарным тэатры, але ж сам трэндам я сябе не адчуваю. Я проста працую ў тэатры, выконваю сваю работу сумленна, наколькі магу.

**— Якім вы любіце тэатр, вам падабаюцца сучасныя тэатральныя працы?**

— Сёння тэатр, у якім я працую, перажывае не самыя лепшыя часы. Для мяне наогул зараз не час тэатра. Тэатральны сінтэз, які цяпер пачынае панаваць на гэтай прасторы: сумяшчэнне розных жанраў, пошукі нейкіх нестандартных шляхоў — не ўпэўнены, што мог бы ўзяць у гэтым удзел. Можа быць, я крыху старамодны, але мне падаецца, што той тэатр, які я люблю і люблю сёння, — гэта ўсё ж такі тэатр маіх успамінаў і першых уражанняў. Я памятаю, калі быў маленькі, прыходзіў глядзець пастаноўкі з жоўтымі лямпачкамі, старымі касцюмамі і акцёрскімі скуголеннямі, і менавіта гэтыя складнікі былі маёй тэатральнай падзеяй. Сёння ў тэатры ўсё часцей можна сустрэць праўдападобную акцёрскую гульню, і гэта дзіўна. Той тэатр моцна адрозніваўся ад жыцця, і нават тэмы былі высокія па сваіх панящцях, і акцёры ігралі крыху так з уздымам. Зараз усё ж такі пераважаюць жорсткія тэмы, бо гэта спосаб ускалыхнуць чалавечы мозг. А я, які тэатр ўпершыню ўбачыў, такі люблю і зараз, але ж, як казаў, гэта пытанне ўспамінаў.

**— Гэта значыць, што да роляў, якія вы выконваеце сёння, у вас вялікія патрабаванні? Вы не будзеце іграць тое, што не адчуваеце?**

— Мне вельмі цяжка сказаць не, але ў мяне было некалькі выпадкаў, калі я не мог сябе пераканаць. Я бачыў, што нічога не магу зрабіць з гэтай роллю, каб яна выглядала для мяне не так пошла. Некалькі разоў я адмаўляўся ад такіх прапаноў, таму што разумеў, што не змагу, буду хлусіць, я не веру ў тое, што там адбываецца, і нічога не магу з гэтым зрабіць. Ва ўсіх сваіх героях я шукаю частку сябе, думаю, што хоць калісьці пражываў з прапанаванага сцэнарыя. Калі вобраз зусім непраўдзівы для мяне — не змагу яго іграць, я проста не ўмею так. Ёсць такія акцёры, якія могуць адарвацца ад сябе і іграць зусім іншага чалавека, а ў мяне асабістае жыццё і вобраз заўсёды пераплятаюцца. Балюча я перажываю хлусню ад самога сябе.

**— Дастаткова складана сумяшчаць некалькі відаў дзейнасці, а ў вас атрымліваецца. Вы аднолькава любіце тэатр і кіно, альбо нешта з гэтага з'яўляецца проста сродкам для заробку грошай, а штосьці — сапраўднай цікавасцю?**

— Ведаеце, кіно для мяне больш рваны рытм. Я не так прывык да яго. Тэатр жа — гэта першае каханне. Тут неадрыўнасць дзеяння на сцэне: гадзіны дзве альбо тры прымушаюць паглядзець на сітуацыю інакш, зразумець яе. У кіно больш чым сама праца мне падабаецца калектыў, бо часта сустракаеш цікавых людзей. Бывае, у дзень з табой здымуць дзве хвіліны, і ты чакаеш наступных кадраў. У гэтым чаканні знаходзяцца новыя сябры альбо цікавыя суразмоўцы.

## КАХАННЕ ПРАХОДЗІЦЬ ПЭЎНЫЯ ЭТАПЫ

**— У адным са сваіх інтэрв'ю вы казалі пра каханне да жонкі, гаварылі, што любое каханне мае розныя перыяды і вы б не хацелі паўтарыць перыяд заляцанняў, рамантычнасці, перыяд вашага кахання сёння найбольш камфорны для вас…**

— Канечне, я не магу любіць яе сёння так, як любіў напачатку, бо каханне праходзіць пэўныя этапы. Яно заўсёды рознае. Зараз я не магу быць як студэнт, якому дваццаць два, і з такімі вачыма, з такім хваляваннем чакаць сустрэч. Я расту. І каханне маё таксама расце, яно перарастае ў іншыя формы: гартуецца, выпрабоўваецца, шмат чаго церпіць. Зразумела, што шчанячай радасці як напачатку быць ужо не можа, і дзякуй богу, бо, калі б яно засталося такім, то не перарасло б у больш глыбокія пачуцці. Чалавек мяняецца, нешта пераадольвае, пераасэнсоўвае, каханне робіць тое ж, яно становіцца мацнейшым за кошт выпрабоўванняў і стрыманасці.

**— Як у вашай сям'і адбываецца выхаванне? Я ведаю, што вы з Ганкай размаўляеце з дзецьмі на беларускай мове, што вельмі прыемна. Ёсць складанасці ў прывіванні беларускамоўнай практыкі, беларускай культуры і традыцый?**

— Па гэтым пытанні ніякіх складанасцей у нашай сям'і няма. Дзеці да пэўнага ўзросту ўспрымаюць усё як губка. Калі ў сям'і ёсць моўныя носьбіты, то і дзеткам лягчэй успрыняць мову. Яны добра разумеюць як рускую, так і беларускую мову, але ж паміж сабой размаўляюць на роднай. Нашы дзеці вельмі хутка пераключаюцца ад аднаго да іншага. Ды і ў нас не так строга, мы не прымушаем іх размаўляць толькі па-беларуску, але паказваем, што гэта іх родная мова, з вялікай павагай вучым ставіцца да яе. Мне за мову сапраўды баліць, і таму я вельмі хачу, каб мае дзеці ведалі беларускую. Будуць яны карыстацца ёй у дарослым жыцці альбо не — не ведаю, але мая задача, каб яны ведалі мову сваёй краіны, каб не забываліся і не адкідвалі яе. Гэта тое ж самае, што павага да бацькоў і павага да сябе. Калі нам дадзена мова і культура, мы павінны іх пільнаваць і перадаваць нашчадкам. Я люблю рускую мову, люблю англійскую, але не настолькі, каб забыць сваю родную. Гэта мая мова, якую я свядома выбраў. Дарэчы, у дзяцінстве я рэдка чуў беларускую мову, але пасля, вывучаючы гісторыю роднага краю, зразумеў, што яна мне патрэбна. Да людзей, якія не разумеюць мову, я стаўлюся спакойна і не пераконваю іх. Кожны павінен зрабіць свой выбар сам, і я, і мая сям'я не маем ніякага права асуджаць.



*Павел Харланчук з сям'ёй.*

**— Мінулы год быў дастаткова цяжкім для вашай сям'і, але ў вас ужо пяцёра маленькіх дзяцей, гэта, на мой погляд — вялікае шчасце. З якімі мэтамі і марамі вы ўвайшлі ў новы год?**

— Мы, калі шчыра, не загадваем. Калі будуць нейкія выпрабаванні, то будзем з імі спраўляцца. Вельмі не хочацца сябе заганяць у рамкі і думаць, што будзе, а што не. Галоўнае — жыць кожнай хвілінай, кожным момантам. А калі мы будзем думаць, што наперадзе такі складаны год і што мы будзем рабіць, нічога добрага не атрымаецца. Будуць праблемы — будзем вырашаць. Кажуць, што з усім будзе кепска: і з тэатрам, і з кіно, і з заробтнай платай. Але ж я не хачу верыць у гэта. Праблем хапае заўсёды. Адзінае, што магу сказаць, што я зраблю ўсё, каб маім дзецям і жонцы было добра. Зраблю ўсё, наколькі мяне будзе хапаць.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Шлях назад забаронены

## Фактычныя і метафізічныя набыткі кіно

**Кінематограф як з'ява, як тэхналогія, як від мастацтва 28 снежня адзначыў свой дзень нараджэння (праўда, мастацтвам кіно было прызнана значна пазней стварэння). Паміж першым публічным паказам фільмаў братоў Люм'ер у парыжскім Гран-кафэ на бульвары Капуцынак і трыумфам сёмага эпізоду касмічнай сагі «Зорныя войны» прайшло 120 гадоў. У кіно, хоць яно і маладое, слаўная гісторыя, у якую ўпісаны і кінематограф беларускі. Апошні 17 снежня адзначыў 91-годдзе з моманту выхаду пастановы Савета Народных Камісараў «Пра кінавытворчасць у БССР», з якой пачалося існаванне структуры «Белдзяржкіно», то бок таксама дзень нараджэння. Якое месца ў сусветным займае беларускі кінематограф — рытарычнае пытанне, але назіраць за працэсамі развіцця абодвух — сапраўднае задавальненне.**



*Кадр з дэбютнай кароткаметражнай карціны Мітрыя Сямёнава-Алейнікава «Адной крыві», якая летась атрымала Гран-пры на міжнародным фестывалі фільмаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Let's Cee ў Вене.*

Пачыналася ўсё са, здавалася б, простага, а ў той жа час манументальнага. Напрыклад, з серый карцін імпрэсіяністаў кшталту цыклаў «Руанскі сабор» Клода Манэ, «Бульвар Манмартр» Каміля Пісаро ды іншых прац, якія «падрыхтавалі» абывацеля да адлюстравання руху ў часе. Фатаграфія, эксперымент Эдварда Мэйбрыджа (фатограф Мэйбрыдж зрабіў серыю фотаздымкаў каня, каб даказаць, што падчас бегу той адрывае ўсе чатыры нагі) — увогуле відавочныя перадумовы стварэння новага віду мастацтва. І яно ўпісвалася ў гісторыю піянерамі кінематографа братамі Люм'ер, іх канкурэнтам Томасам Эдысанам, вядомым эксперыментатарам і фокуснікам Жоржам Мельесам, Эдвінам Портэрам (аўтар першага вэстэрна «Вялікае рабаванне цягніка»), Дэвідам Грыфітам (стваральнік паралельнага мантажу і хэпі-энду «выратаванне ў апошні момант»). Адзначалася на экранах першым гангстарскім фільмам, першым гукавым, каляровым, рэжысёрскімі дэбютамі Чарльза Чапліна, Роберта Вінэ, Сяргея Эйзенштэйна, Жан-Люка Гадара, братоў Дардэн. Галівудская студыйная сістэма, зорная «Алея славы», арт-хаус, неарэалізм, сістэма пракату, кінафестывальны рух, Бэтмен — гэта ўсё кіно. Сусветнае.

У беларускім кінематографе таксама імёны, якія, магчыма, не адыгралі значнай ролі ў развіцці кіно ўвогуле, але важныя для нас як частка культуры і праваднікі роднаснага блізкага самаўсведамлення. Для некага яны могуць існаваць толькі як функцыі, як «Юрый Тарыч — аўтар першай беларускай карціны «Лясная быль» ці «Алег Фрэліх — аўтар фактычна (не па з'яўленні ў пракаце) першага беларускага фільма «Прастытутка». А можна гэты кантэкст насыціць і на ім узбагаціцца: Уладзімір Корш-Саблін, можна сказаць, выратаваў Чырвоны касцёл у Мінску ад разбурэння, бацьку Віктара Турава расстралялі падчас Вялікай Айчыннай, і тэма вайны тужліва адазвалася ў бессюжэтных карцінах аўтара, Валерый Рыбараў быў праваднікам лірычнага суб'ектыўнага эпасу і зняў самы касавы беларускі фільм «Мяне завуць Арлекіна», Міхаіл Пташук быў запрошаны працаваць у Галівудзе, дакументаліст Віктар Аслюк перадае ў сваіх карцінах ледзь адчувальны дух беларускасці... Мы маем і свой «залаты перыяд», і складаныя канструкцыі кшталту «студыя мастацкіх фільмаў «Савецкая Беларусь» (сённяшні «Беларусьфільм»), ці «адкрыты рэспубліканскі конкурс кінапраектаў», і, напэўна, будучыню беларускага кіно. Доўгая перадгісторыя патрэбна не толькі як падмурак ці гонар, а як напамінак, што шлях назад забаронены, што зніжаць узровень — ганьба, што прымаць кіно як «сродак» — адыход ад цывілізаванасці, што браты Люм'ер, хоць наўрад ці ўяўлялі сабе сучасныя спецэфекты, стварылі кіно для будучых узлётаў. Думаю, у першую чаргу мастацкіх.

Мы ўжо прывыклі да ўсведамлення: беларускае кіно стагнуе. І ў кожным фактычным набытку, інфармацыйнай падставе мінулага года мы шукалі магчымасці выйсці з гэтага стану. У двух конкурсах кінапраектаў Міністэрства культуры, у выніку якіх адзінаццаць груп атрымалі пэўныя сродкі на ўвасабленне сваіх ідэй; у прызначэнні на месца дырэктара кінастудыі «Беларусьфільм» Ігара Поршнева; у праекце *KINOSPRINT*, у якім аб'ядналіся арганізацыі кінематаграфіі, каб дапамагчы маладым аўтарам зняць кароткаметражныя фільмы (вынікі плануецца паказаць на вялікім экране ў студзені); у паспяховым Нацыянальным конкурсе на міжнародным кінафестывалі «Лістапад».

Пералічанае — толькі факты, выстаўленыя на першы план, а ўсё галоўнае, глабальнае, маштабнае адбываецца, як у французскім кіно, на плане другім. З першага позірку можна было не заўважыць, а з другога ў туманных вобразах сучаснага беларускага кіно выглянула надзея. Я не жартую, не какетнічаю, не ствараю фальшывы энтузіязм — я гэтую надзею сапраўды адчуваю, бо мінулы год паказаў нам вобраз беларускага кінематографа, у якім будучыня дакладна — за незалежнымі аўтарамі. Яны былі і раней, фільмы ствараліся без дзяржаўных грошай і нават выходзілі ў пракат, але, здаецца, апошнім часам магчымасці маладых аўтараў-энтузіястаў наблізіліся да іх жаданняў.

А гэта першая ўмова, за якой толькі пэўныя рашэнні на дзяржаўным узроўні — і ўсё ў нас будзе добра ў новым годзе. На сайце «Звязды» мы зладзілі апытанне «Што здольна вывесці беларускае кіно з застою?». Лідзіраваў адказ «маладая кроў». Незалежныя аўтары



*Кадр з кароткаметражкі «Сапраўдная амерыканка» Дар'і Жук. Аўтарка ў 16 гадоў з'ехала вучыцца ў Амерыку, скончыла Гарвардскі і Калумбійскі ўніверсітэты і сёння жыве ў Брукліне.*

паказалі ў мінулым годзе свой патэнцыял, нам трэба выкарыстаць яго, каб імёны Дэвіда Грыфіта і Юрыя Тарыча ўзгадваліся з прыемным пачуццём таго, што мы — вартыя нашчадкі.

**Генеральны прадзюсар кампаніі «БелФільм Група» Юрый Ігруша:**

— У апошнія два гады ў кінасферы з'яўляецца больш незалежных, асабліва маладых, фільммейкераў. Вольная ніша, пазіцыі на якой паступова страчвае дзяржава, і даступнасць тэхнічных сродкаў дазволілі маладым рэжысёрам зрабіць значныя крокі ў незалежным кіно, якое стала мацнейшым. Яшчэ нельга казаць пра ўстойлівую тэндэнцыю, падобную да «новых хваляў» у румынскім, чэшскім, польскім кінематографе. Увогуле пакуль што складана выказваць меркаванні пра будучыню — трэба паглядзець, ці стануць другія і трэцція карціны незалежных аўтараў заўважанымі, як гэта здарылася сёлета з дэбютнымі фільмамі на Нацыянальным конкурсе кінафестывалю «Лістапад».

Часцяком незалежныя беларускія працы маладых аўтараў бліжэй да вучэбных праектаў, чым да аўтарскіх выказванняў. Яны яшчэ не выйшлі на той узровень, каб выклікаць цікавасць за межамі краіны. Нашым аўтарам пакуль не хапае пэўнай смеласці ў ідэйным і тэхнічным узроўні, не кажучы ўжо пра вопыт. Пакуль нават тыя пазітыўныя моманты, што мы бачым, — не прарыў, не перамога, не «рэвалюцыя» — аўтары, можа, і прайшлі агонь і ваду, але наперадзе яшчэ медныя трубы.

Большасць з дэбютантаў, я ўпэўнены, за наступны фільм нават не возьмецца, таму што маладыя рэжысёры вымушаны без фінансавання і падтрымкі забіраць грошы з сямейных бюджэтаў. Гэта пэўны гераізм, але невядома, наколькі яго можа хапіць.

Тым не менш пласт незалежнага кіно год ад году расце, ствараецца ўсё больш фільмаў. Тут важная падтрымка прадзюсараў, а гэта ўжо сфера бізнесу. Трэба разумець, што прадзюсар — не мецэнат і не дабрачынец, яму цікавыя фільмы, што ўпісваюцца ў механізмы, па якіх існуе камерцыйнае вялікае кіно. У Беларусі ж унікальная сітуацыя. Улічваючы яе, я нават без меркантыльных памкненняў апошнія паўтара года займаюся стварэннем калекцыі незалежнага беларускага кіно, у якой ужо некалькі дзясяткаў фільмаў. На гэты год у нас вялікія планы па арганізацыі паказаў і ўдзеле гэтых карцін у міжнародных фестывалях. Ёсць папярэднія дамоўленасці аб прасоўванні фільмаў у скандынаўскіх краінах, Расіі, Украіне. Беларускія працы дагэтуль рэдка траплялі на сур'ёзныя пляцоўкі, таму я бачу цікавасць да нашага сучаснага кіно. Лідзіруюць па ўдзеле ў міжнародных кінафорумах дакументальныя карціны. Характэрна, што ў ігравым большасць складаюць кароткаметражкі, а незалежнай мультыплікацыі ўвогуле мала, бо яна патрабуе значных фінансавых выдаткаў.

Мы назіраем пэўныя тэндэнцыі, што вядуць да ўздыму нашага кінематографа, але вельмі важна, каб дзяржава не прапусціла гэты момант і падтрымала памкненні маладых аўтараў, тады, магчыма, мы зможам казаць пра ўстойлівае развіццё новага беларускага кіно.

**Рэжысёр-дакументаліст, пераможца Нацыянальнага конкурсу кінафестывалю «Лістапад» у катэгорыі дакументальнага кіно Андрэй Куціла:**

— Я падзяляю пазітыў у адносінах да развіцця беларускага кінематографа. Падставай для гэтага стаў у тым ліку Нацыянальны конкурс мінулага кінафестывалю «Лістапад», дзе я ўбачыў шэраг цікавых прац. Зразумела, анімацыя, дакументальнае кіно і да гэтага былі нашым гонарам, але надзеі на ігравое не з'яўлялася насамрэч даўно, таму я з захапленнем глядзеў на экран.

Зараз галоўнае, каб маладыя аўтары, што ўжо адзначылі свае імёны ў кінематографе, не зніклі. Але ў мяне ўзнікае адчуванне, што людзі з розных сфер, датычных да кінематографа, як тыя лебедзь, рак і шчупак, не чуюць адзін аднаго, што дыялог нават не пачаты, не зроблены першыя крокі. Нехта разумее, што ў нас недастаткова развіты інстытут прадзюсарства, нехта за прадзюсара лічыць Міністэрства культуры, хаця яно толькі выдаткоўвае і размяркоўвае грошы, у той час як роля прадзюсара значна шырэйшая. Незразумелая і ідэя Фонду кіно, гаворка пра які вядзецца ўжо даўно, але Міністэрства культуры дагэтуль не можа сказаць на гэты конт нешта выразнае.

Калі слухаць і верыць, у гэтым коле кожны хоча, каб наша кіно развівалася, але паміж важнымі для кінематографа людзьмі не атрымліваецца нармальнай размовы. У мяне і маіх сяброў прыемныя і радасныя пачуцці ад беларускага кінапрацэсу апошніх гадоў, але, з іншага боку, мне сумна, таму што пакуль не бачна перспектыў кантактавання незалежнага кіно з дзяржавай. А нават калі з трыццаці аўтараў, прадстаўленых у Нацыянальным конкурсе, у сур'ёзнае кіно праб'ецца адзін-два, — гэта ўжо будзе добры вынік.



*Поўнаметражны фільм Андрэя Куцілы перамог у катэгорыі дакументальнага кіно Нацыянальнага конкурсу «Лістапад».*

Нехта з тых аўтараў будзе прынцыпова здымаць бюджэтнае кіно. А як далей працаваць маладым рэжысёрам, чые праекты будуць патрабаваць грошай, і не сысці ў сумежныя прафесіі, не з'ехаць за мяжу? Ніякіх канкрэтных прапаноў для маладых аўтараў ні Міністэрства культуры, ні кінастудыя не выказваюць, хаця затрымаць рэжысёраў у прафесіі здольна сістэмная падтрымка дзяржавы, і толькі дзяржавы, калі казаць пра кіно ў высокім, мастацкім сэнсе, пра тое, што акупаецца ў выключных выпадках. Інакш той жа Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў будзе здымаць рэкламу ды кліпы, каб выжыць у Беларусі, ці ў горшым выпадку з'едзе здымаць серыялы ў Маскву, а нацыянальны кінематограф можа згубіць таленавітага рэжысёра. Таму асноўнае пытанне сёння — механізм дзяржаўнай падтрымкі. Я бачу яе толькі ў форме адкрытага для грамадскасці пітчынгу кінапраектаў, і важным пунктам тут з'яўляецца фарміраванне і склад камісіі, якая будзе прымаць рашэнне аб размеркаванні грошай.

**Ірэна КАЦЯЛОВІЧ**

# Сем узроўняў адчування Агінскага



Гравюра Напалеона Орды «Сядзіба Агінскага ў Залессі».

**Энергія творчасці мае фантастычную сілу — дарыць надзею, абуджаць пачуцці і нават ствараць краіны. У айчыннай культуры ёсць такая асоба, чыя энергія не адно стагоддзе адгукаецца ў кожным, хто чуе сумныя гукі чароўнага паланэза, у якім адлюстраваная душа і гісторыя цэлага народа. Разам з кіраўніком фэсту Агінскага ў Залессі, музыкантам, навукоўцам і краязнаўцам Аляксеем Фраловым мы падводзім вынікі юбілейнага года знакавай асобы:**

**1.** Праз асэнсаванне створанага і публікацыі новых адкрыццяў Міхал Клеафас Агінскі паўстаў таленавітым у розных сферах (дзяржаўнай, грамадскай дзейнасці і творчасці), і як чалавек эпохі Асветніцтва з'яўляўся гуманістам (так узнікла Віленскае таварыства дабрачыннасці). Ён быў неабыякавы ва ўсім. Яго музыка — гэта рэакцыя неабыякавасці да таго, што ён бачыў навокал. Ці гэта смуткі і тагедыі, ці гэта радасці і весялосць. На ўсё ён вельмі шчыра адгукаўся — мелодыяй, матывамі, рытмамі. Фармальна яго нехта класіфікуе як кампазітара-аматара. Але як асоба ён — геній.

**2.** Выяўлены шэраг камерна-інструментальных твораў самога Міхала Клеафаса. Павялічылася ў тым ліку і колькасць паланэзаў. Знойдзены цікавы марш 1797 года, калі дух паўстання Касцюшкі не згас пасля задушэння, патрэбна была новая надзея. Даследчыца творчасці Агінскага Святлена Немагай, выявіла, што гэты марш іграўся Напалеону (якога разглядалі як саюзніка), яго генералам і іх дамам. Упершыню прэм'ера яго ў сучаснай Беларусі адбылася падчас фэсту ў Залессі. У Вялікай зале Белдзяржфілармоніі мы з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі ўпершыню прадставілі шмат каштоўных з музычнага гледзішча фрагментаў оперы «Зіліс і Валькур, альбо Банапарт у Каіры». Яшчэ адна сенсацыя таго вечара — Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Ёзэфа Вёльфеля, аднаго з настаўнікаў Міхала Клеафаса, тады яшчэ маладога кампазітара і піяніста, які стаў венскім класікам. Вёльфль меў гонар займацца з такім адукаваным вучнем, як Агінскі, сапраўдным арыстакратам па нараджэнні і па духу.

**3.** Пераасэнсаваць паланэзы Агінскага дапамог выдатны сучасны кампазітар Вячаслаў Кузняцоў, ён перанёс іх у сучаснасць. Далучылася балетмайстар Наталля Фурман (балет быў прадстаўлены ў Літве, Польшчы, Расіі і нават Парыжы). Нават сам Агінскі паўстаў як герой і як чалавек, які сумняваецца. Трэба сказаць, што Агінскі не чалавек-крэмень. Ён шукаў дыялогу з Усходам і Захадам для сваёй радзімы. У гэтым сэнсе ён вельмі тутэйшы — спадзяваўся на дыпламатыю. Ён праяўляў сябе як грамадзянін, руплівец зямлі сваіх продкаў. У сучасным творы адчуваецца глыбіня гэтага чалавека. Яна выявіўся ў самых апошніх радках, у настаўленні сыну, у настаўленні дачцэ, у настаўленні радзіме ў сваім паланэзе. Усё ж «Развітанне з радзімай» — гэта яго фінальны акорд.

**4.** Залессе мае права на свае легеды (пра ад'езд з радзімы з гэтай мелодыяй у сэрцы). Але мы лепш разумеем сутнасць гэтага паланэза, калі ведаем праўду. У той час, калі ён быў створаны, Агінскі перажываў другую катастрофу: развітанне з надзеяй. Будучы ўжо ў эміграцыі, ён развітваўся з радзімай, калі задушылі чарговае паўстанне за аднаўленне радзімы (1830 — 1831 гадоў). Быў зачынены Віленскі ўніверсітэт, пад корань зрублена дрэва культуры. У гэтым паланэзе гучыць усё: пачуццё мінулага, успамін пра бесклапотнае юнацтва, магчыма, пра тое, як дачушка Амелія танчыць паланэз каля каляднага каміна Клеафаса, там і паўстанцкія матывы. Некалькі тактаў — а ў іх фенаменальны згустак думак, пачуццяў. Дзякуючы гэтаму паланэзу ўсё XIX стагоддзе жыла і гучала ідэя краіны, якой на палітычнай карце не было, але ў сэрцах яна існавала. Такія асобы, як Агінскі, маюць у сабе моцны пульсар, які, можа, не так ярка свеціць, але дае імпульсы, якія ўлоўліваюцца ў розных спектрах — грамадскім, мастацкім.

**5.** Святкаванне 250-годдзя Міхала Клеафаса Агінскага пайшло на карысць культуры як Беларусі, так і ўсяго нашага рэгіёна. Ён яднае крыламі свайго таленту шмат народаў, таксама як і яго нашчадкі, — яны раз'ехаліся пра розных краінах. Там, дзе жылі, спрыялі развіццю лакальных супольнасцяў — рабілі электрычнасць, перабудавалі мястэчкі — паўставалі цудоўныя палацы і касцёлы, музычныя школы. Агінскія рупіліся, каб школа была на жамойцкай мове, калі тая была забаронена. У рамках фэсту духавы аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі выступіў у літоўскім Рытавасе. Юбілей вярнуў Вялікае Княства ў яго культурнай спадчыне.

**6.** Дух Агінскага можна было адчуць у залескай сядзібе, нават калі яна яшчэ не была адрэстаўравана: гэта аўтэнтычны будынак. Цяпер сядзіба цікавая для людзей, якім разумець гісторыю дапамагаюць прыгожыя рэчы. Музеефікацыя зроблена пад кіраўніцтвам дырэктара Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры Зінаіды Кучар. Самiх рарытэтаў, да якіх дакранаўся Міхал Клеафас (ці яго сваякі) у Беларусі мала. Нядаўна ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь быў прадстаўлены кубак, падораны ўнуку Агінскага Багдану. Але ў Залессі рэчы той эпохі, да якіх дакраналіся яго сучаснікі, знойдзеныя і закупленыя на аўкцыёнах па ўсім свеце: люстэркі, більярдны стол, габелены, партрэты. Візуалізуюць эпоху рамантычны парк вакол палаца, сажалкі. Вядома, і музыка, без якой няма экспазіцыі пра музыку. Залеская сядзіба мусіць быць агучана музыкай Агінскіх і павінна вярнуцца як аб'ект інтэлектуальнай рафініраванай музычнай культуры.

**7.** Агінскі дапамог прадставіць сучасную музычную Беларусь. На «Фэсце Агінскага ў Залессі» можна было пачуць голас народнага артыста Беларусі Уладзіміра Пятрова, знайшлі магчымасць выступіць лаўрэаты міжнародных конкурсаў тэнар Ілья Сільчукоў і сапрана Таццяна Гаўрылава, таксама і нашы цудоўныя піяністы Юрый Бліноў, Аляксандр Музыкантаў, Сяргей Вайніцкі. Браў удзел ансамбль камернай музыкі «Брэвіс». Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі з дзвюма праграмамі выязджаў у рэгіёны. Па выніках года плануем кампакт-дыск з праграм трыа «Вытокі». Мы не закрываем фестывыль. Таму што пачынаецца новы год з Агінскім — «Час Агінскага ў Залессі».

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Чаго вам не хапае ў музычным жыцці сучаснай Беларусі?

Мы звярнуліся з пытаннем да тых асоб, што стваралі падзеі ў музычным мастацтве летась і мацавалі будучыню сваім талентам.

**Алег Хадоска, кампазітар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь:**

— Як кампазітару, што працуе ў буйных жанрах, хацелася б больш увагі з боку аркестраў, тэатраў. Зараз заканчваю шостую сімфонію. На жаль, пятая сімфонія не гучала ў Беларусі (прэм'ера была на фестывалі ў Кіеве два гады таму). Восенню 2015-га дзякуючы Уральскаму сімфанічнаму аркестру і фестывалю Башмета ў Беларусі прагучаў Канцэрт для сімфанічнага аркестра «Грамадзяне горада Кале». Музыка павінна гучаць: я пішу таму, што нешта хачу сказаць — не толькі для спецыялістаў, але для шырокага слухача.

З боку Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета была прапанова стварыць оперу «Шляхціц Завальня». Пачатак ужо ёсць — у партытуры і клавіры. Леанід Дранько-Майсюк цудоўны тэкст напісаў. Хоць для таго, каб ператварыць гэты твор Баршчэўскага ў оперу, патрэбны добры лібрэтыст. У нас трошкі недапрацаваная сістэма, ва ўсім свеце спачатку ствараецца лібрэта, якое зацвярджаецца тэатрам, потым паэт піша тэксты і музыка заказваецца кампазітару. А ў нас кажуць: твор прыносьце гатовы. Але ж у кожнага тэатра свой фармат: тое, што робіцца для музычнага тэатра, не падыдзе для опернага і наадварот. У оперным тэатры ўжо дастаткова даўно ляжыць аднаактовая опера «Чорны манах» — няма для яе рэжысёраў. Таксама ёсць ідэя ператварыць мой балет «Зала чакання» (харэаграфія Канстанціна Кузняцова і Юліі Дзятко) у спектакль з двух актаў. Хацелася б, каб справа зрушылася: гэта мой тэатр.

**Саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, лаўрэат прэстыжных міжнародных конкурсаў Віктар Мендзелеў:**

— Беларуская музыка мае патрэбу ў больш актыўнай папулярызацыі — у першую чаргу праз СМІ. Калі разважаць пра оперу, то трэба ўлічваць, што гэта не поп-культура, яе заўсёды слухае абмежаванае кола людзей. Тым не менш і оперы патрэбна пастаянная рэклама — як на крэатыўных, выйгрышных постарах, якія прыцягваюць увагу (каб не згубіцца побач з Максам Каржом), так і ў газетах, інтэрнэт-сайтах, на радыё і тэлебачанні. Сёння перад намі стаіць праблема: як зацікавіць гледачоў, данесці да іх неабходнасць у класічнай музыцы? І тут мы сутыкаемся з першым падводным каменем — выхаваннем эстэтычнага густу. А ў нас зачыняюцца музычныя класы ў школах і вучэльнях... Каму ад гэтага лепш? Таленавітай моладзі шмат, але прэстыжу ў прафесіях музыканта, выканаўцы, кампазітара няшмат. Чаму? Напэўна, вялікую ролю адыгрывае ўзровень зарплаты, што, як правіла, не адпавядае патрабаванням і нагрузкам. Цікавы факт: у нас шмат прыезджых выканаўцаў і ў іх годныя ганарары. Хацелася б, каб гэтае правіла распаўсюджвалася і на сваіх, беларускіх артыстаў.

Тым не менш беларускае opернае мастацтва зараз знаходзіцца на досыць высокім узроўні. Ёсць выдатныя выканаўцы, якія ўслаўляюць нашу краіну за мяжой на вялікіх сцэнах... Нягледзячы на тое, што зусім нядаўна адгрымеў II Мінскі міжнародны Калядны конкурс вакалістаў, хочацца больш такіх праектаў — бо гэта рэальныя пляцоўкі для раскрыцця талентаў.

**Галоўны дырыжор Гомельскага сімфанічнага аркестра, лаўрэат міжнародных конкурсаў піяністаў у Беларусі, Францыі, Марока, Расіі Мурад Асуіл:**

— Найбольш вострa на нашым музычным полі, вядома, гучыць праблема фінансавання. Зачыняць філіялы кансерваторый нароўні з закрыццём музычных класаў у школах — таксама вельмі неабдуманая палітыка, якая толькі замінае нашай справе. У беларускай музычнай школы ёсць выдатныя педагогі, вопытныя і таленавітыя, якія могуць навучыць, падказаць, накіраваць. Нашы кампазітары пішуць мноства твораў... У Мінску, напрыклад, шмат аркестраў, якія іграюць самыя розныя праграмы, пастаянна прыязджаюць дырыжоры і выканаўцы... Дык чаму іх чуюць толькі «выбраныя»? Таму што аўдыторыю, асабліва маладую, трэба выхоўваць, гледачоў неабходна рыхтаваць да канцэртаў. А гэта — праца музыкантаў, іх уменне ісці на кантакт, быць больш мабільнымі, супрацоўнічаць і размаўляць, прапаноўваць свае ініцыятывы. Не трэба ўспрымаць класіку як музыку для эліты.

Я веру, што сітуацыя з веданнем класічнай музыкі на Беларусі палепшыцца. Усё залежыць ад нас, музыкантаў. Калі мы будзем працаваць разам і прасоўваць «сваё» нягледзячы на нядачы, а не ўцякаць за мяжу, усё атрымаецца. Хацелася б, напрыклад, у Гомелі арганізаваць маштабны форум класічнай музыкі — шукаю зацікаўленых.

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

# Якіх помнікаў чакае Беларусь?

**Помнікі гісторыі і культуры — гэта самыя цікавыя і значныя артэфакты ад археалагічных знаходак да музычных твораў. Але часцей за ўсё слова «помнік» ужываецца ў дачыненні да твораў скульптуры і архітэктуры. У Беларусі захавалася нямала будынкаў, якія нагадваюць пра значныя падзеі мінулага і знакамітых гістарычных дзеячаў. Якіх помнікаў чакае Беларусь сёння? Пра якія значныя імёны варта нагадаць жыхарам краіны і замежным гасцям? На гэтыя пытанні адказваюць дзеячы беларускай культуры.**



**Рыгор Сітніца, графік, паэт, старшыня Беларускага саюза мастакоў:**

— Найперш чакаю, калі з'явіцца помнік нашаму першаму і адзінаму каралю Міндоўгу ў Навагрудку. У 1990-я гады праводзіўся конкурс на стварэнне помніка, было прадстаўлена шмат цікавых праектаў — трэба толькі зноў зрабіць гэта актуальным. Па-другое, чакаю помніка Васілю Быкаву — але тут не маецца на ўвазе мадэль, якая «гуляе» ў інтэрнэце. Праца над стварэннем помніка распачынаецца абвяшчэннем рэспубліканскага ці міжнароднага конкурсу, фарміраваннем аўтарытэтнага журы, якое выбірае адзін праект з прапанаваных варыянтаў. Пакуль што конкурс на помнік Васілю Быкаву не абвешчаны.

Па-трэцяе, чакаю ўсталявання мемарыяльных шыльдаў на мінскіх дамах, дзе жылі Рыгор Барадулін ды Арлен Кашкурэвіч і Гаўрыла Вашчанка.

Да таго ж, вельмі важна, каб праводзіліся рэстаўрацыйныя работы на знакавых гістарычных аб'ектах — такіх як Ружанскі палац, Крэўскі і Гальшанскі замкі, гродзенскі Стары замак.



**Аляксей Дудараў, драматург, старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў:**

— У сталіцы нашай радзімы абавязкова павінны з'явіцца помнікі Уладзіміру Караткевічу і Васілю Быкаву — прынамсі таму, што чужы чалавек моцна здзівіцца: «Як гэта іх няма?». Імёнамі гэтых пісьменнікаў маглі б быць названы гарадскія вуліцы. Слова «помнік» утворана ад слова «памяць», бо скульптурная кампазіцыя дапамагае захоўваць памяць пра мінулае. Я не разумею, навошта ствараюць помнікі літаратурным героям, бо помнік літаратурнаму герою — гэта сама кніга. Навошта, напрыклад, ставіць у беларускіх гарадах помнік гогалеўскаму Носу альбо Бураціну? Так, скульптуры літаратурных герояў пачалі з'яўляцца яшчэ за савецкім часам — згадаем, напрыклад, сталічную плошчу Якуба Коласа. Але літаратурныя персанажы побач са сваім стваральнікам выглядаюць больш натуральна, бо ўвага затрымліваецца ў першую чаргу на постаці пісьменніка. Помнік бульбе ці гранёнай шклянцы — гэта наогул смешна. А вось работы Уладзіміра Жбанава мне падабаюцца, бо гэта мастацкая гарадская дэкарацыя на стагоддзі!



**Вольга Дадзіёмава, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі:**

— Горача падтрымліваю ідэю ўшанавання памяці слыннага кампазітара Станіслава Манюшкі, жыццё і творчасць якога шчыльна звязана з беларускай зямлёй, з яе вядомымі дзеячамі, у тым ліку Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Хочацца, каб у сталіцы з'явіўся помнік кампазітару — выбітнаму сыну Міншчыны, які здзяйсняў своеасаблівы музычны дабравест — нёс добрую вестку пра Беларусь у розныя краіны, перадусім у суседнія Польшу, Літву ды Расію.

А яшчэ мару пра тое, што ўсе творы Манюшкі Мінскага перыяду — ад песень і рамансаў да оперных кампазіцый — будуць знойдзены ў архівах, вернуцца на радзіму і будуць выдадзены і выкананы нашымі лепшымі артыстамі. Тым больш што вялікі вопыт гэтай працы ўжо назапашаны. Упэўнена, праект помніка С. Манюшку будзе рэалізаваны і станецца цудоўным падарункам сталіцы напярэдадні юбілею капазітара, які адзначым у 2019 годзе.



**Зінаіда Камароўская, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа:**

— Найперш звярнуся да асобы Якуба Коласа: вельмі хочацца бачыць помнік песняра на яго радзіме, у Стоўбцах. Крыўдна, што на сёння ёсць толькі бюст у Мікалаеўшчыне, устаноўлены ў 1972 годзе. Маю надзею, што да чарговага юбілею Якуба Коласа (2017 год) гэта пытанне вырашыцца станоўча дзякуючы рупнасці мясцовых улад і пры падтрымцы кіраўніцтва краіны. А помнік дзядзьку Антосю альбо іншым новазямельцам, устаноўлены на Стаўбцоўшчыне, мог бы сімвалізаваць беларуса-працаўніка.

Добра, што ў Беларусі з'явіўся помнік Максіму Танку. Лічу, што можна ўшанаваць і памяць іншых выбітных асоб — Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна... Таксама важна, каб у іншых рэспубліках пры падтрымцы нашай дзяржавы адзначаліся мясціны, звязаныя з жыццём дзеячаў беларускай культуры. У біяграфіі Я. Коласа гэта Вільнюс, Курск, Ташкент, Парыж. Доўгі час мы чакаем усталявання памятнай дошкі на будынку, дзе размяшчалася рэдакцыя газет «Наша Доля» і «Наша Ніва».



**Дзяніс Марціновіч, гісторык, крытык, журналіст:**

— Адназначна не хапае помнікаў кіраўнікам Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага, некаторым кіраўнікам Рэчы Паспалітай, якія спрыялі росквіту беларускіх земляў, перамагалі ворагаў. Не хапае помнікаў і дзеячам беларускага нацыянальнага адраджэння, людзям, якія сталі ля вытокаў Беларускай народнай рэспублікі, — напрыклад, братам Івану і Антону Луцкевічам. Ёсць помнік Вацлаву Ластоўскаму ў Глыбокім — але ён мог бы стаяць у Мінску...

Было б добра, каб з'яўляліся і помнікі прадстаўнікам беларускай культуры XX стагоддзя — нацыянальным класікам у самым шырокім сэнсе: пісьменнікам, мастакам, кампазітарам. Так, на месцы помніка рэвалюцыянеру Міхаілу Калініну мог бы стаяць помнік Уладзіміру Караткевічу...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Конкурс! Конкурс! Конкурс!

Каб умацавацца ва ўсведамленні значнасці культурнай спадчыны для кожнага з нас, рэдакцыя газеты «ЛіМ» абвяшчае **конкурс «Культурны ракурс»** — для ўсіх сучасных, аптымістычных і крэатыўных чытачоў! З гэтага часу трапіць на старонкі газеты могуць не толькі знакамітыя мастакі, дзяржаўныя дзеячы ці аўтары новых літаратурных опусаў. Дастаткова ў цікавым ракурсе сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца ля яго і даслаць фотаздымак на электронны адрас газеты (*lim_new@mail.ru*) з пазнакай «Культурны ракурс». Прымаюцца і фотаздымкі, зробленыя ў жанры сэлфі! Лепшыя работы будуць апублікаваныя, а іх аўтары — адзначаны прызамі.

Паняцце «помнік» мы прапануем разумець у шырокім сэнсе — як аб'ект, які з'яўляецца часткай культурнай спадчыны краіны. Гэта не толькі архітэктурныя і скульптурныя збудаванні, але і помнікі гісторыі, мастацтва, беларускага пісьменства... Спадзяёмся, што ўдзельнікі конкурсу звернуць увагу не толькі на славутыя і знакамітыя помнікі, але і на ўнікальныя пабудовы ці творы мастацтва, якія дапамогуць больш даведацца пра беларускую глыбінку.

Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным (цікавым, арыгінальным, рэпрэзентатыўным і г. д.). А таксама канкрэтных звестак і пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота, але толькі лепшае з іх (па меркаванні рэдакцыі) будзе апублікавана ў газеце. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і арыгінальнасць канцэпцыі, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.

Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!

**Юлія ШПАКОВА**



*Фота Кастуся Дробава.*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 5.01.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1997.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 150

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686